КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 33 (354) ◂ 6 верасня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



**АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА**

Стар. 4

**ЯК МАСКОЎСКІЯ РАЗБУРАЮЦЬ НАШ «МАСКОЎСКІ»**

Гісторыя з закрыццём сталічнага аўтавакзала «Маскоўскі», за якой сёлета сочаць тысячы пасажыраў з усёй краіны, абрасла нядаўна новымі падзеямі, абставінамі ды фігурантамі. Магчыма, вакзал і ацалее

Стар. 5

**САБАКІНЫ ВЫБАРЫ**

8 верасня Масква абірае мэра. Пра перадвыбарчыя жарсці і шансы Аляксея Навальнага журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае супрацоўнік маскоўскага офісу арганізацыі «Greenpeace» Таццяна Блатава

Стар. 13

**ЛЯВОН САВЁНАК — ПСЕЎДАНІМ КРЫВІЧАНІН**

Стар. 14–15

ISSN 2218-2144

**ЧЫТАЙЦЕ Ў НАСТУПНЫМ НУМАРЫ!**

**СВАЁЮ ПУЦЯВІНАЙ**

Працяг успамінаў Арсеня Ліса

▸ З НАГОДЫ




# ВЫБАРЫ БЕЗ ВЫБАРУ

Сяргей ПУЛЬША

**Выбары ў мясцовыя саветы пачаліся. Перадвыбарчую кампанію пачала апазіцыя. На выбарах будуць два блокі: «Народны рэферэндум», у які ўваходзяць кампанія «Гавары праўду!», Партыя БНФ і Рух «За свабоду», плюс БСДП і ўсе астатнія пад новай шыльдай — «За справядлівыя, сумленныя выбары для лепшага жыцця». Афіцыйна прэзентацыя новай кааліцыі пройдзе ў верасні.**

«Для лепшага жыцця» будуць удзельнічаць у выбарах: Беларуская партыя левых «Справядлівы свет», Аб'яднаная грамадзянская партыя, аргкамітэт па стварэнні Партыі працоўных, аргкамітэт Беларускай жаночай партыі «Надзея», аргкамітэт грамадскага праваабарончага аб'яднання «За справядлівыя выбары», «Беларускі рух» і «Маладая Беларусь» пад кіраўніцтвам Артура Фінькевіча.

Інтрыга ў тым, што пакуль ні да адной кааліцыі не далучыўся аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», які апошнім часам дзейнічае найбольш паспяхова. Сама БХД пакуль устрымліваецца. Як сказаў сустаршыня БХД Віталь Рымашэўскі, пакуль ён не бачыць, каб гэтыя ініцыятывы былі на карысць народу Беларусі, а не з'яўляліся б «партыйным міжсабойчыкам», заснаваным на старых структурах. Таму БХД займецца сваімі праграмамі, кшталту ініцыятываў за сямейныя каштоўнасці, будзе працягваць працу Рады народных дэпутатаў і ўздымаць праблемы, якія хвалююць людзей, а не асобна ўзятую апазіцыю.

Але падаецца, ніводная апазіцыйная структура не імкнецца ў гэтых выбарах да перамогі.

Пра стратэгічныя мэты кааліцыі «выбару» заявіў лідар АГП Анатоль Лябедзька. Ён паведаміў, што новая кааліцыя плануе «выкарыстоўваць палітычныя выбарчыя кампаніі, якія праводзіць улада». «Ёсць палітычная воля, каб на мясцовую выбарчую кампанію ісці з агульным пасланнем і агульным спісам кандыдатаў. І ёсць воля мець агульнага кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах, каб вярнуць людзям права выбару», — заявіў ён.

Лідар «Справядлівага свету» Сяргей Калякін удакладніў, што асноўная задача кааліцыі — растлумачыць людзям, што ад выбараў залежыць іх далейшае жыццё, «каб яны дамагаліся таго, каб выбары былі выбарамі».

Вядома, людзі цяпер занепакоеныя іншым: ростам цэн, навучаннем дзяцей, здароўем, жыллём і інш. Але трэба, каб яны зразумелі: гэтыя пытанні вырашаюцца на выбарах шляхам абрання нармальнага кіраўніцтва. «Калі насельніцтва ўдасца пераканаць, што галоўны інструмент уплыву на іх штодзённае жыццё — выбары, што выбары павінны быць свабоднымі, і яны могуць змяніць правілы гульні, то тады ёсць шанец вырашыць і задачу перамогі. Калі ж правілы гульні зменены не будуць, то не істотна, колькі будзе кандыдатаў ад апазіцыі — усім ім «намалююць», як звычайна», — лічыць Калякін.

Кааліцыя «Народны рэферэндум» ужо фармуе адзіны спіс кандыдатаў у дэпутаты. Між тым, перамагаць не збіраюцца і яны.

**Абедзве кааліцыі маюць намер змагацца за давер народу, а не за перамогу на выбарах. Маўляў, усё роўна галасы не лічаць, мясцовыя дэпутаты прызначаюцца**

Каардынатар «Гавары праўду!» Андрэй Дзмітрыеў паведаміў: для кааліцыі гэта будзе «велізарная інфармацыйная кампанія». «Трэба зрабіць так, каб людзі, якія бачылі б нашых кандыдатаў у Бярозе, у Мінску і Рэчыцы, стэлефанаваўшыся паміж сабой, змаглі б пра нешта агульнае пагаварыць. І казалі б яны пра тое, што ў нас напісана на плакатах», — сказаў Дзмітрыеў. А на плакатах, натуральна, будуць напісаны пытанні «Народнага рэферэндуму» і патрабаванні ягонага афіцыйнага правядзення.

«Біцца за людзей, а не за месца», — кажа Дзмітрыеў. «Практыка падліку галасоў у Беларусі не змянілася, разлічваць на падлік галасоў не прыходзіцца. Таму тактыка будзе прыкладна такая, як падчас мінулых парламенцкіх выбараў. Вылучыць кандыдатаў у дэпутаты, правесці выбарчую кампанію і замацавацца ў акругах, вырашаючы мясцовыя праблемы замест прызначаных дэпутатаў. Калі мы гэта зробім, то да прэзідэнцкіх выбараў мы прыйдзем з выразнай большасцю», — тлумачыць Дзмітрыеў.

Такім чынам, абедзве кааліцыі маюць намер змагацца за давер народу, а не за перамогу. Усё роўна галасы не лічаць, мясцовыя дэпутаты «прызначаюцца», і ўвогуле не маюць ніякіх канкрэтных паўнамоцтваў, каб прымусіць гэтую ўладу змяніцца.

На жаль, нават калі будзе большасць з апазіцыяй (дарэчы, і зараз з імі большасць, толькі маўклівая), ніякай рэвалюцыі не атрымаецца. І «змяніць правілы гульні» таксама. Апалагеты лозунга «апазіцыя з народам» забываюцца на рэвалюцыйную класіку. А яна палягае ў тым, што ніводная «большасць» рэвалюцый не робіць — яе робіць добра арганізаваная і мэтаскіраваная меншасць. А большасць проста ўспрымае «на ўра» тыя перамены, якія робіць «новая меншасць».

Да таго ж, вельмі слушна пра ўсялякія «інфармацыйныя кампаніі» і «кампаніі байкоту» казаў паслядоўны Мікола Статкевіч. Калі кандыдат і ягоная каманда працуюць на перамогу — яны выкладваюцца максімальна. Каб перад людзьмі і перад самім сабой сорамна не было. А калі кандыдат працуе на нейкую абстрактную «інфармацыйную кампанію», то і выкладвацца яму не трэба.

Яшчэ адна хіба «інфармацыйных кампаній» палягае ў тым, што яе вынікі нельга «памацаць рукамі». Калі кандыдат скіраваны на перамогу, то і перамога — ягоная новая пасада, з'яўляецца відавочнай. А як можна ацаніць вынік «інфармацыйнай кампаніі»? Па сацыялагічных апытаннях? Дык пасля парламенцкіх выбараў 2012 года апазіцыянеры заявілі, што сацапытанні ў Беларусі немагчымыя ў прынцыпе.

Вынік «інфармацыйнай кампаніі» памацаць немагчыма. Можна толькі заявіць, што «мы выйгралі», але, як кажуць, «словы да справы не прышыеш». Хаця беларускаму КДБ і не такое ўдавалася.

Падаецца, нас чакае чарговая кампанія па выбарах без самога выбару. Галасаваць за кандыдата ад улады няма сэнсу, бо яго і так прызначаць — сцвярджае апазіцыя. А галасаваць за апазіцыянера таксама не мае сэнсу, бо пасада ў мясцовым савеце яму да аднаго месца.

Такім чынам, застаецца толькі пасляць усіх кандыдатаў падалей і правесці выбарчы час на канапе.

ПЫТАННЕ

# ЧАМУ ЛІТВА ВЫСТУПАЕ СУПРАЦЬ САНКЦЫЙ?

**Беларусь для Літвы нашмат важней, чым мы можам палічыць. «У афіцыйнай статыстыцы гэта адлюстроўваецца не ў поўнай меры, бо часта літоўскія кампаніі інвестуюць у Беларусь не праз Літву, а праз зону меншых падаткаў», — запэўнівае эканаміст «Swedbank» Нерыюс Мачуліс.**

Інвестуючы ў Беларусь, прадпрымальнікі вельмі рызыкуюць: у краіне пануе палітычная нявызначанасць, непакой выклікае і нестабільнасць валюты, піша lrt.lt.

## Прывабнасць ГЦ

Вялікую ролю маюць гандлёвыя цэнтры. У Літве яны — аб'ект прыцягнення беларусаў, у Беларусі — адзін з асноўных літоўскіх бізнэсаў.

Беларусы жартуюць, што пасля адкрыцця IKEA ў Вільні, машыны з беларускімі нумарамі будуць стаяць не ў Akropolis, а ў новага ГЦ.

Эканамісты не сумняваюцца, што новы ГЦ прыцягне яшчэ больш беларусаў і прынясе выгаду не толькі IKEA. «Госці будуць заходзіць у рэстараны, у іншыя ГЦ, карыстацца паслугамі транспарту. Я б сказаў, што турызм за кошт беларусаў павінен атрымаць немалую карысць, тым больш, што яны прыязджаюць на доўгі час», — адзначыў эканаміст банка «Nordea» Жыгімантас Маўрыцас.

Літоўскія кампаніі ў Беларусі інвестуюць у прамысловасць, а практычна ўсе існуючыя ў Беларусі ГЦ — ці літоўскія інвестыцыі, або ГЦ беларусаў, якія жывуць у Літве.

## Вільня для беларусаў — як Парыж

Па словах Мачуліса, Вільнюс для жыхароў Беларусі прывабная тым, чым нас прыцягвае Парыж, Лондан і іншыя развітыя гарады Еўропы і свету: «Яны могуць атрымаць тавары і паслугі, якіх не бачаць у сваёй краіне. Вельмі часта гэта прадметы раскошы. Даводзілася чуць, што гандляры віном рады, што беларусы купляюць у Літве шмат дарагога віна. Часцей сюды прыязджаюць заможныя жыхары Беларусі».

Беларускі рынак рызыкоўны, інвестары, якія адкрываюць там ГЦ, патрабуюць большага вяртання інвестыцый. Паколькі гэта ўключаюць у цану тавару, яна вышэй. Акрамя таго, у беларусаў ёсць магчымасць вярнуць падаткі.

## Залежнасць ад Беларусі

Па дадзеных Міністэрства замежных спраў Літвы, у студзені-красавіку 2013 года Літва экспартавала ў Беларусь тавары на суму 1280,82 мільёна літаў, у параўнанні з тым жа перыядам 2012-га, гэтая лічба павялічылася на 38%. Прамыя інвестыцыі Літвы склалі 275,93 мільёна літаў. Прамыя інвестыцыі Беларусі ў Літве склалі 139,78 мільёна літаў.

«Мы не можам сцвярджаць, што мы цалкам залежым ад Беларусі, але залежнасць існуе. У плане інвестыцый і гандлю яна невялікая. Аднак грошы Беларусі складаюць значную частку прыбытку Клайпедскага порта, таму наша краіна выказваецца супраць жорсткіх эканамічных санкцый у дачыненні да Беларусі», — сказаў эксперт Цэнтра геапалітычных даследаванняў Уладзімір Валавы.

На думку Маўрыцаса, Літве было б зручней, калі б Беларусь болей адкрывалася Захаду: «Беларусь павінна дамагацца доўгатэрміновых інвестыцый з Захаду. Калі буйныя заходнія канцэрны інвеставалі б у Беларусь, то якія-небудзь санкцыі ў будучыні былі б малаверагодныя. Аднак пакуль асноўныя інвестары ў гэтай краіне — літоўцы і палякі. Таму застаецца рызыка, што іншыя краіны, у імя еўрапейскіх каштоўнасцяў могуць прыдумаць эканамічныя санкцыі ў дачыненні да Беларусі, а нам гэта нанясе шкоду».

**Паводле ru.delfi.lt**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# НАТАЛЛІ ІЛЬІНІЧ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ПРАЦАВАЦЬ У ШКОЛЕ

**Сёлета ў Талькаўскай СШ вызвалілася месца настаўніка гісторыі, былога выкладчыка перавялі працаваць у аддзел ідэалогіі. Даведаўшыся пра гэта, Наталля Ільініч, якая раней і працавала настаўнікам у гэтай школе, падала заяву на працу.**

Аднак з аддзела адукацыі спачатку прыйшоў адказ, што такой вакансіі няма. А пасля стала вядома, што на гэтае месца ўзялі іншага чалавека.

Спадарыню Ільініч звольнілі ў 2011 годзе, праз месяц пасля прэзідэнцкіх выбараў, нягледзячы на хадайніцтвы старшыні школьнай прафсаюзнай арганізацыі, бацькоў вучняў і выпускнікоў.

26 гадоў яна адпрацавала ў Талькаўскай школе, дзе стварыла краязнаўчы гуртог і сайт talka.info, выдала кнігу «Талька і наваколле», даследавала нацыянальна-вызваленчае паўстанне 1863 года супраць Расійскай імперыі пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага ў Ігуменскім павеце, штогод праводзіла Талькаўскі фестываль. Сярод яе выхаванцаў — філосафы, сацыёлагі, гісторыкі і фалькларысты.

Наталля Ільініч не ўваходзіць ні ў якую палітычную партыю, хоць і брала актыўны ўдзел у шэрагу выбарчых кампаній — збірала подпісы за дэмакратычных кандыдатаў і была назіральнікам.

Настаўніца звярталася і да начальніка аддзела адукацыі Пухавіцкага райвыканкама Таццяны Чарнышовай, і да міністра адукацыі Сяргея Маскевіча, і нават у суд — з просьбай аднавіць яе на працы. Аднак усе звароты былі безвыніковымі, суд пакінуў рашэнне адміністрацыі школы без зменаў.

**spring96.org**

СПРАВЫ

# ДРУГІ ЭТАП ТАЛАКІ Ў КУРАПАТАХ

*Генадзь КЕСНЕР*

**У суботу, 7 верасня, у 12.00 распачнецца другі этап Талакі ва ўрочышчы Курапаты, дзе пахаваныя многія дзясяткі тысяч людзей, закатаваных сталінскімі апрычнікамі ў 1937–1941 гадах. Пра гэта 4 верасня на прэс-канферэнцыі ў сядзібе Партыі БНФ паведамілі прадстаўнікі грамадзянскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» і Хрысціянскага руху.**

Па словах каардынатара ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Ганны Шапуцькі, месца збору ўдзельнікаў — Крыж Пакуты, што каля цэнтральнага ўваходу ва ўрочышча. Цягам тыдня, да 14 верасня, працы па ўпарадкаванні курапацкага лесу будуць праводзіцца ад 17-й да 19-й гадзіны.

Як адзначыў каардынатар Хрысціянскага руху Аляксей Шэін, арганізатары Талакі зараз спрабуюць прыцягнуць да гэтай справы хрысціян, таму што перад усім Курапаты — гэта месца памяці і пакаяння. «Гэта месца, дзе павінны адбывацца малітвы за краіну і за яе будучыню. І, канешне ж, гэта тое месца, дзе трэба адстойваць сваю спадчыну. Мне падаецца, што гэта добрая магчымасць малітвы для хрысціян, якія зараз адчуваюць на сабе, на жаль, ціск. Бо мы ведаем гісторыі, звязаныя з рознымі пратэстанцкімі цэрквамі, калі прыціскаюць правы не толькі асобных вернікаў, але цэлых цэркваў, гэта і праблемы, звязаныя з каталікамі, з некаторымі праваслаўнымі. Я думаю, што для хрысціян зараз добрая магчымасць у гэтай сітуацыі далучыцца да грамадскай актыўнасці, праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю, не проста хадзіць на набажэнствы ў нядзелю, але і пастарацца быць у месцах, зразумелых хрысціянам, — месцах памяці і пакаяння», — падкрэсліў актывіст.

«Абавязак хрысціяніна — гэта годнае пахаванне памерлых, — дадае паплечніца Аляксея Шэіна па Хрысціянскім руху Юлія Фралова. — Якая ў нас можа быць будучыня, калі за намі крывавым шлейфам цягнецца мінулае? Тое, з чым не разлічыліся ў мінулым, будзе вяртацца з яшчэ большай моцай. Таму павінна быць публічнае пакаянне, асуджэнне камуністычнай сістэмы, тэрору, прашэнне аб прабачэнні праз малітву. Тады ў нас будзе будучыня».

«Курапаты трэба разглядаць як сімвал гісторыка-нацыянальнай памяці, як сімвал трагедыі мінулага стагоддзя, а цяпер гэта трагедыя грамадства і краіны. Калі паглядзець, то стан Курапатаў падобны на той стан грамадства і дзяржавы, у якім мы знаходзімся», — адзначыў прадстаўнік ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Уладзімір Раманоўскі.

Паводле ўдзельнікаў прэс-канферэнцыі, на Талаку ў Курапаты запрашаюцца ўсе жадаючыя, незалежна ад веравызнання, палітычных поглядаў і прыхільнасцяў.

ДАПАМОГА

# АХВЯРАВАННІ ДЛЯ СЯМ'І КСЯНДЗА ЛАЗАРА

**Пра пачатак збору грашовых сродкаў у падтрымку сям'і ксяндза Лазара заявілі арганізатары вечара салідарнасці са святаром.**

Паводле слоў каардынатара грамадзянскай ініцыятывы «За Волю» Ганны Шапуцькі, грошы патрэбныя ў першую чаргу на аплату паслуг адваката і перадачы ў СІЗА.

Вечар салідарнасці з ксяндзом, які знаходзіцца ў зняволенні з ліпеня, прайшоў у офісе Партыі БНФ і стаў часткай марафона салідарнасці са святаром.

Ініцыятарамі мерапрыемства выступілі аргкамітэт па стварэнні партыі «Беларуская хрысціянская дэмакратыя», ініцыятыва «Хрысціянскі рух» і грамадзянская ініцыятыва «За Волю».

Адказны сакратар аргкамітэта па стварэнні БХД Дзяніс Садоўскі паведаміў, што сабрана каля 4 800 подпісаў у падтрымку ксяндза.

Пра затрыманне ксяндза стала вядома праз некалькі дзён пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка 26 ліпеня паведаміў журналістам: супрацоўнік беларускіх спецслужбаў затрыманы за працу на замежныя дзяржавы.

**belapan.com**

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА

# ПРАВААБАРОНЦЫ БУДУЦЬ СУДЗІЦЦА З РАЙВЫКАНКАМАМ

**Адмову ў пікеце ў падтрымку палітзняволенага старшыні праваабарончага цэнтра «Вясна» Алеся Бяляцкага і іншых палітвязняў, які заяўляўся на 4 жніўня, праваабаронцы лічаць неабаснаванай і неправамернай.**

Па-першае, адмова за подпісам намесніка старшыні райвыканкама Яўгена Тарасюка была дасланая не за пяць дзён да пікету, як таго патрабуе закон, а напярэдадні пікету. Хаця заяўка на пікет была накіравана 19 ліпеня. У гэты ж дзень заяўнікі пікету звярнуліся па дамовы на абслугоўванне пікету. І спасылкі райвыканкама на адсутнасць дамоў з міліцыяй, ЖКГ і бальніцай падобны да здзеку са сваіх грамадзян, паколькі дамова з ЖКГ была. Супрацоўнікі міліцыі былі гатовыя падпісаць дамову, але ў райвыканкаме ім сказалі, што дамова, магчыма, не спатрэбіцца, паколькі дазвол можа быць дадзены без дамовы, улічваючы, што ў пікеце будуць удзельнічаць 10 чалавек. На зварот праваабаронцаў наконт медабслугоўвання мерапрыемства галоўная лекарка Бярозаўскай раённай бальніцы пісьмова адказала, што ў пераліку платных паслуг бальніцы такая паслуга не пазначана, таму яны не могуць заключыць такую дамову.

У чым у такой сітуацыі заключаецца віна заяўнікаў пікету? Але мясцовую ўладу гэтае пытанне, відаць, не цікавіла. Вызначальным у яе рашэнні, напэўна, быў загад «зверху» — не даць і не пушчаць.

Па словах аднаго з падпісантаў заявы ў суд, праваабаронцы Сержука Русецкага, разлічваць на перамогу ў судзе не даводзіцца, але патрэбна прайсці ўсе судовыя інстанцыі, каб была магчымасць звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН.

**spring96.org**

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



# ЛЕПЕЙ НЕ БУДЗЕ

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Пакуль афіцыйны агітпроп трындзіць пра тое, якія кепскія рускія і як яны падставілі шчырых беларусаў, улада паціху вырашае свае праблемы. На мінулым тыдні мы ўжо пісалі пра павышэнне акцызаў на паліва. Што прагназавана выклікала адпаведны крок да падвышэння коштаў, прычым не толькі на паліва.**

У сувязі з павышэннем акцызаў на бензін і на 70% акцызаў на дызельнае паліва канцэрн «Белнафтахім» павысіў рознічныя цэны на нафтапрадукты, тым самым вярнуўшы на станоўчы ўзровень даходнасць паставак нафтапрадуктаў на ўнутраны рынак.

З 3 верасня кошт 1 літра бензіну Нармаль–80 складае 7 400 рублёў (+200 рублёў, або 2,8%), бензіну АІ–92-К3 — 7 700 рублёў (+400 рублёў, ці 5,5%), бензін АІ–92-К5 — 7 800 рублёў (+400 рублёў, ці 5,4%), бензін АІ–95-Еўра — 8 300 рублёў (+500 рублёў, ці 6,4 %).

Дызельнае паліва падаражэе на 500 рублёў — з 8 000 да 8 500 рублёў (6,3 %), зімовае дызельнае паліва «Арктыка» — таксама на 500 рублёў да 9 500 рублёў за літр (5,4 %).

Здавалася б, ну што такое зараз 500 рублёў? Дробязі. Але ў машыны заліваеш не літр. І, запраўляючы аўто на 20 літраў, розніца ў кошце складае 10000. А вось гэта ўжо дастаткова адчувальна. А сярэдні поўны бак у машыне — 40–50 літраў.

Што найбольш здзекліва выглядае, дык гэта афіцыйнае паведамленне пра тое, што «павышэнне коштаў цалкам кампенсуе пастаўшчыкам і перапрацоўшчыкам нафты павышэнне акцызаў». Гэта значыць, усе нашы праблемы нафтаперапрацоўкі цалкам аплачваюць грамадзяне са сваёй кішэні!

Ну, канешне ж. Чысты прыбытак беларускай нафтаперапрацоўкі знізіўся на 58,4 % у І паўгоддзі. А адкуль узяць грошы? Канешне ж, з кішэняў грамадзян.

Дарэчы, нафтаперапрацоўку чакаюць складаныя часы. На мінулым тыдні віцэ-прэм'ер РФ Аркадзь Дварковіч на фоне арышту Баўмгентнера заявіў, што Расія рэзка скароціць пастаўкі нафты ў Беларусь у 4-м квартале, каб па выніках года аб'ём пастаўленай па нафтаправодзе ў РБ нафты не перавысіў 18,5 мільёна тон. Такім чынам, аб'ём паставак можа скараціцца да 3 мільёнаў тон нафты.

Праўда, пра гэта яшчэ пагавораць. Беларусь і Расія абмяркоўваюць пытанне паставак расійскай нафты ў Беларусь у рамках запланаванага на сярэдзіну верасня пасяджэння міжурадавай камісіі. На лепшае можна спадзявацца, але разлічваць трэба на горшае, таму што перамовы гэтыя будзе праводзіць сам Дварковіч і наш Уладзімір Сямашка.

Але першы крок ужо зроблены. «Транснафта» заявіла пра тое, што скароціць экспарт нафты ў верасні на 400 тысяч тон.

Зрэшты, і ў Беларусі ёсць козыры. Бо нафтаперапрацоўка — справа, як гаворыцца, двухбаковая. Калі мы не атрымаем нафту — Расія не атрымае бензін. А калі яна не атрымае бензін, то і прыбытку не будзе. Кіраўнік «Раснафты» Ігар Сечын заявіў аб сваёй нязгодзе з «планамі Транснафты» па скарачэнні прапампоўкі нафты на беларускія НПЗ. Па яго словах, страты «Раснафты» могуць скласці каля 20 мільёнаў долараў. Праўда, Сечын не ўдакладніў, пра якія страты ідзе гаворка (валавая выручка, прыбытак або бонусы яму як акцыянеру), і не растлумачыў, што перашкаджае «Раснафце» прадаць Еўропе або перапрацаваць у Расіі недапастаўлены ў Беларусь аб'ём.

«Мы папрасілі ўдакладніць, каго гэта тычыцца, і звярнулі ўвагу на неабходнасць выканання кантрактных абавязацельстваў: і нашых перад беларускім бокам, і іх перад намі», — заявіў Сечын. Больш за тое, ён не выключыў, што разгледзіць магчымасць пастаўкі ў Беларусь нафты па чыгунцы.

«Мне трэба на Мазырскі НПЗ, на свой актыў пастаўляць нафту. Калі будуць скарачаць аб'ёмы паставак прапарцыйна, я пацярплю больш за ўсіх. Таму я чакаю тлумачэнняў», — сказаў Сечын.

Але такіх «дружбаноў» таксама трэба трымаць на дыстанцыі. Хоць «Раснафта» і з'яўляецца мінарытарным уладальнікам акцый Мазырскага НПЗ, з заявамі кшталту «свой актыў» Сечын відавочна паспяшаўся. Пакуль кантроль у МНПЗ маюць беларускія ўлады, і пры вырашэнні нейкіх ключавых пытанняў у Сечына не тое што меркаванне, прозвішча не спытаюць.

З-за «справы Баўмгертнера» хісткасць нашага эканамічнага цуду і сацыяльна арыентаванай дзяржавы зразумелі нават самыя аптымістычныя аптымісты. А ў дадатак шухеру навёў Пётр Пракаповіч. Экс-кіраўнік Нацбанка і цяперашні віцэ-прэм'ер РБ сцвярджае, што калійная вайна з Расіяй не з'яўляецца палітычным канфліктам і калійную галіну Беларусь не чакаюць цяжкія часы. «Тут няма і не можа быць ніякай палітыкі. Гэта звычайныя адносіны двух гаспадарчых суб'ектаў», — заявіў Пракаповіч. «Працавалі разам, цяпер разышліся. Ну, што ж, цяпер будуць працаваць паасобку. Такіх прыкладаў дастаткова», — звёў ён сітуацыю з выхадам «Уралкалія» з БКК да банальнай бізнэс-сваркі.

Па словах віцэ-прэм'ера, праз 2–4 месяцы «Беларуськалій» зажыве яшчэ лепш, чым у нядаўнія часы сумеснага экспарту калію з «Уралкаліем» праз БКК. «Сітуацыя часовая. Спатрэбіцца ад двух да чатырох месяцаў, я думаю, каб аднавіць рынкі, набраць абароты і працаваць далей. Ужо ёсць пагадненне на пастаўку 3 мільёнаў тон калійных угнаенняў з Арабскімі Эміратамі, Катарам і іншымі рэспублікамі. Упэўнены, што неўзабаве мы пачнём прадаваць такія ж аб'ёмы прадукцыі, як раней, а можа быць, і ў большых аб'ёмах», — пераканаы Пракаповіч.

Пётр Пракаповіч вядомы тым, што яго прагнозы спраўджваюцца з дакладнасцю да наадварот. У 2011 годзе ён усіх пераконваў, што дэвальвацыі не будзе. У гэтым годзе ён таксама казаў аб стойкасці беларускага рубля і аб поўнай адсутнасці падстаў праводзіць любую дэвальвацыю. А на фоне гэтых выказванняў долар працягвае біць гістарычныя максімумы і пераадолеў адзнаку ў дзевяць тысяч. Зараз ён кажа пра вясёлкавыя будучыні «Беларуськалія» ў той час, як два рудніка з чатырох на прадпрыемстве ўжо спыненыя.

На фоне выказванняў Пракаповіча кіраўніцтва прадпрыемства павінна задумацца аб тым, у якую ж дзірку яно трапіла, і як з яе выбрацца, каб канчаткова туды не праваліцца.

А чаго чакаць беларусам? Кошты будуць расці — вось чаго. Адно толькі павышэнне вартасці бензіну выкліча павышэнне коштаў на ўсё, бо транспартныя выдаткі ніхто не адмяняў. А калі яны сталі большыя — дык і кошт прадуктаў і тавараў вырасце. Да варажбіткі хадзіць не трэба.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АЛЯКСАНДР ФРАНЦКЕВІЧ



Услед за лідарам «Маладога фронту» Зміцерам Дашкевічам з месяцаў зняволення выйшаў яшчэ адзін палітвязень — анархіст Аляксандр Францкевіч. Пасля вызвалення за ім будзе ўстаноўлены прэвентыўны нагляд тэрмінам на паўгода.

Францкевіч, які адбываў пакаранне ў калоніі №22 у Івацэвічах, быў вызвалены ў 5.30 раніцы. «Паднялі ў 5.00, а не як звычайна ўздым у калоніі ў 6.00. За паўгадзіны афармілі ўсе дакументы і ў 5.30 выпусцілі за вароты турмы. Хутчэй за ўсё, гэта зроблена так, каб я не паспеў развітацца з сябрамі па калоніі», — лічыць Францкевіч. Палітвязень распавёў, што ўвесь час адчуваў ціск, але ціснулі і на звычайных зняволеных: «Калі чалавек моцны, незалежна ад таго, па якіх прычынах ён сядзіць, то ён вытрымае».

Апошнія пяць месяцаў Аляксандр Францкевіч правёў у ПКТ. Ведае пра тое, што адбываецца ў краіне па прэсе і з лістоў. Тое, што адбываецца сёння ў Беларусі, назваў «палітычным тэрорам».

«Мае погляды не змяніліся, а толькі ўмацаваліся», — адзначыў ён.

Францкевіч быў узяты пад варту 3 верасня 2010 года. Праходзіў па «справе анархістаў». 27 мая 2011 года судом Заводскага раёна асуджаны разам з Ігарам Аліневічам і Мікалаем Дзядком. Актывіста судзілі па ч. 2 арт. 351 КК (наўмыснае знішчэнне кампутарнай інфармацыі) і ч. 2 арт. 339 (злоснае хуліганства). Яго абвінавацілі ў нападзе на шэраг дзяржаўных устаноў, а таксама ва ўзломе сайта Навапалацкага гарвыканкама. На судзе сваёй віны ён не прызнаў.

Суд прысудзіў Францкевіча да 3 гадоў пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму. У верасні 2011 года беларускія праваабаронцы прызналі яго палітычным вязнем.

### ГЛЕБ ЛАБАДЗЕНКА



Літаратар Глеб Лабадзенка выйграў суд за мову. Лабадзенка абскардзіў парушэнне закону аб зваротах грамадзян, якое выявілася ў тым, што супрацоўнік ЖЭС на ягоны беларускамоўны зварот адказаў па-руску.

Суд Фрунзенскага раёна Мінска прысудзіў штраф дырэктару ЖЭС–48 Мінска ў памеры 5 базавых велічыняў, — 500 тысяч рублёў.

Лабадзенка і раней патрабаваў ад розных дзяржаўных устаноў, каб адказы на ягоныя беларускамоўныя звароты былі на беларускай мове. Але ў ЖЭСе, па словах Лабадзенкі, «не проста парушылі закон, яны мяне абразілі». «Яны пад подпісам і пячаткай ЖЭС–48 адмовілі ў адказе па-беларуску, чым адкрыта быў парушаны закон. Суддзя на працэсе сказала, што справа тут адназначная, маглі быць варыянты ў пакаранні, але паколькі такіх хадайніцтваў не паступала, то скончылася штрафам», — адзначыў Лабадзенка.

Праўда, у ЖЭСе пра рашэнне суда яшчэ не чулі. Але тое, што суд прыняў рашэнне ў абарону мовы, само па сабе вызначальнае. Зараз пытанне, «колькі каштуе мова», набывае рэальны сэнс.

### АЛЯКСАНДРА ГЕРАСІМЕНЯ



Чэмпіёнка Алімпіяды–2012 Аляксандра Герасіменя здзівіла ўсіх сваёй адукаванасцю і пераборлівасцю ў чытве. Падчас круглага стала, прысвечанага Дню Беларускага пісьменства, яна прызналася, што захапляецца Васілём Быкавым.

«З сучасных беларускіх пісьменнікаў люблю Наталлю Батракову. Прачытала ўсе яе кнігі і з нецярпеннем чакаю наступных. Ганаруся знаёмствам. Гэтак жа, як і з Генадзем Мікалаевічам Бураўкіным. Гэта на дзіва сумленны і добры чалавек, зносіны з якім даюць мне вельмі многае. Ён літаральна захапіў мяне Васілём Быкавым», — адзначыла чэмпіёнка.

«Нядаўна перачытала «Абеліск». Мне здаецца, гэтая ваенная аповесць Быкава вельмі сучасная і актуальная. Яна пра сапраўднага мужчыну, які, не задумваючыся, аддаў жыццё за сваіх вучняў, за тых, каго вучыў добраму і вечнаму. Гэта кніга пра выбар, пра перамогу абавязку і гонару над уласным страхам, пра тое, што чалавечая сутнасць у любы час застаецца аднолькавай. Быкаў заўсёды ставіць сваіх герояў у экстрэмальныя абставіны і, чытаючы яго, раз-пораз пытаешся ў сябе: як ты паступіў бы на іх месцы... Чытайце Быкава, там — усё», — сказала Герасіменя.

Цікава, што ўсё больш і больш спартоўцаў праяўляюць сапраўдны беларускі патрыятызм. Можа, менавіта гэтая якасць дапамагае ім выйграваць?

ЛІДАР

# АНАТОЛЬ ЛЯБЕДЗЬКА

Аляксандр ТАМКОВІЧ

**Гэтага палітыка не крытыкаваў хіба толькі лянівы. Мабыць, так трэба было зрабіць і мне. Тым больш, што ёсць за што і ёсць пра што, бо гэтага чалавека я добра ведаю амаль дваццаць гадоў. Аднак крытыкаваць я не буду прынцыпова, бо лічу больш лагічным паспрабаваць зразумець матывацыю яго дзеянняў.**



Анатоль Лябедзька прапанаваў знайсці нейкі кампраміс. Лукашэнка нават даў згоду на правядзенне шырокага круглага стала. Было гэта летам 1995 года

## Без памылак №1

Днямі адбудзецца прэзентацыя кнігі Анатоля Лябедзькі «108 дзён і начэй у засценках КДБ», з чым мы шчыра і віншуем аўтара. Сам жа ён павіншаваў свет сваёй прысутнасцю 27 чэрвеня 1961 года, а адбылося гэта ў вёсцы Трылес Стаўбцоўскага раёна Мінскай вобласці.

Некалі мне пашанцавала шмат разоў пабываць на «малой радзіме» Анатоля. Першае, што ўразіла, — незвычайная шчырасць, з якой бацькі палітыка ставіліся да гасцей. І да жыцця ўвогуле.

Маці, Марыю Іванаўну, як гэта часам сустракаецца ў беларускіх вёсках, у штодзённым жыцці звалі Янінай. А пра свайго бацьку Уладзіміра Міхайлавіча Анатоль заўсёды казаў — «працуе кулаком». На жаль, 26 кастрычніка мінулага года ён пайшоў з жыцця, але шчырая павага і светлая памяць пра гэтага цудоўнага чалавека засталіся не толькі ў маім сэрцы. Ён быў Гаспадар. Менавіта з вялікай літары.

Уражвала не толькі тое, што гэты чалавек не можа без работы ні адной хвіліны, але і разуменне цяжкасці гэтай работы. Акрамя дазволеных Савецкай уладай «сотак», ён заўсёды меў некалькі «падпольных» дзялянак. Ехаў на сваім трактары ў лес, выкарчоўваў там «участак», сеяў жыта. І шчыра радаваўся, што потым старшыня калгасу змог знайсці і «заараць назад» толькі палову з іх.

Дарэчы, калі б у тыя часы правадзілі «Дажынкі», Анатоль разам з бацькам маглі і «жыгуль» атрымаць, бо на старой «Ніве» аднойчы за лета намалацілі больш за тысячу тон зерня.

## Без памылак №2

Пасля сканчэння школы ў 1978 годзе ў Анатоля была першая няўдалая спроба паступлення ў інстытут. Пасля гэтага працуладкаваўся механізатарам у родны калгас імя А. Суворава. Праз год паступіў на падрыхтоўчае аддзяленне Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага, а ў 1980-м — на яго факультэт гісторыі і французскай мовы, які закончыў у 1985 годзе. Для даведкі: 8 верасня 1993 года гэты інстытут атрымаў статус універсітэта, а ў 1995 годзе быў перайменаваны ў Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя Максіма Танка.

Падчас вучобы Анатоль і пазнаёміўся са сваёй будучай жонкай Святланай, якая вучылася ў суседняй групе. Вяселле адбылося 22 верасня 1984 года. Праз год яго прызвалі ў армію — у інстытуце не было ваеннай кафедры. Служыў у войсках супрацьпаветранай абароны пад Падольскам. Там і даведаўся, што 9 снежня 1985 года ў яго нарадзіўся сын Арцём.

Цікава, што Лябедзька хацеў вучыцца і ў аспірантуры, але адно вакантнае месца аддалі дачцэ намесніка міністра, і Анатоль паехаў у Ашмяны, дзе на той момант жыла яго цёшча.

Менавіта з Ашмянамі звязаны пераход Анатоля Лябедзькі з настаўнікаў у палітыкі. Ішоў 1990 год. Некалькі маладых паплечнікаў прапанавалі намесніку дырэктара мясцовай школы-інтэрната па выхаваўчай працы пайсці ў дэпутаты.

Нягледзячы на моцнае супраціўленне (10 чалавек на месца) мясцовай партыйна-савецкай наменклатуры, яны перамаглі тады, як кажуць, у адны вароты. За маладога настаўніка прагаласавала 76 адсоткаў выбаршчыкаў. Тады галасы яшчэ лічылі не ярмошыны з лазавікамі...

Работа намеснікам старшыні Камісіі па справах сям'і і моладзі Вярхоўнага Савета РБ XII склікання стала прычынай пераезда ў Мінск, аднак многія ашмянцы па гэты дзень лічаць Анатоля Лябедзьку сваім.

У 1992 годзе была створана Беларуская асацыяцыя маладых палітыкаў, і ініцыятар гэтай падзеі Анатоль Лябядзька яе ўзначаліў. У 1999 структуры не стала. Не прайшла чарговую перарэгістрацыю.

Пасля заўчаснай смерці вядомага журналіста Анатоля Майсені, Лябедзька ў 1997 годзе быў абраны старшынёй Беларускай еўраатлантычнай асацыяцыі. Але і гэта грамадская структура на сёння не існуе. Што і трэба было чакаць: іншы час і іншыя хаўруснікі ў Беларусі.

Хутка стала відавочна, што настаўніцкай адукацыі для «вялікай палітыкі» недастаткова, і ў 1993 годзе Анатоль Лябедзька скончыў яшчэ і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта.

У 1995 годзе ён зноў балатаваўся па Ашмянскай выбарчай акрузе. Зноў перамог ужо ў першым туры.

У гэты ж момант перайшоў у апазіцыю да Аляксандра Лукашэнкі і ўступіў у толькі створаную Аб'яднаную грамадзянскую партыю. Спачатку быў там намеснікам старшыні, а 15 красавіка 2000 года, пасля выхаду ў адстаўку прафесара Станілава Багданкевіча, яе ўзначаліў.

## Памылка №1

Імя гэта памылкі шырока вядомае. І тычыцца яна не толькі Анатоля Лябедзькі. Гэта памылка выбару пазіцыі падчас першых прэзідэнцкіх выбараў 1994 года.

Але ўсё было там не так адназначна, як кажуць сёння. І пачаць роздум, што адбылося тады, на мой погляд, трэба з разумення розніцы паміж часам росквіту перабудовы і часам нашым. Нельга глядзець на Лябедзьку тых часоў сучасным вокам і перабольшваць яго магчымасці. Як і нельга Анатолю Уладзіміравічу не прызнаваць асабістых памылак.

Упэўнены, зрабі ён гэта яшчэ шмат гадоў таму, сёння мы б не чулі пра «маладых ваўкоў», якія хацелі кіраваць краінай за нечай спіной...

На жаль, гэтага не адбылося, і зараз мы ўжо фактычна не памятаем, што ў 1994 годзе дэмакраты (як і сёння) не змаглі аб'яднацца і вылучыць кандытуру «адзінага» праціўніка тагачаснага кіраўніка беларускага ўрада Вячаслава Кебіча.

Было тры каманды — Зянон Пазьняк, Станіслаў Шушкевіч і Генадзь Карпенка. Усе тры сабралі па сто тысяч подпісаў, патрэбных для рэгістрацыі. Але ў Карпенкі на адным з мінскіх участкаў скасавалі, як быццам бы несапраўдныя, пэўную колькасць подпісаў, каб было менш за сто тысяч. Акрамя таго, Генадзь Дзмітрыевіч за сваё вылучэнне сабраў яшчэ і подпісы дэпутатаў беларускага парламента (патрабавалася як мінімум — 70). Але частка з іх потым адклікала свае подпісы. Анатоль Лябедзька быў сярод тых, хто падпісаўся за вылучэнне, аднак не было сярод тых, хто свае аўтографы скасавалі.

Тое, што дэмакраты тады не змаглі аб'яднацца, спрацііла дасягненне мэты чалавеку, якога лічаць галоўнай памылкай Анатоля Лябедзькі, бо многія тады дзейнічалі па прынцыпу «абы хто, толькі не Кебіч».

Паказальна, што перашкодзілі Карпенку ўдзельнічаць у выбарчай гонцы не тыя, хто быў бліжэй да былога дырэктара саўгаса, а прыхільнікі першага спікера парламента незалежнай Беларусі.

Так што абвінавачваць у тым, што здарылася, выключна кагосьці з «маладых ваўкоў», на мой погляд, не зусім правільна. Яны дзейнічалі згодна чаканням большасці з нас. Таму і адказваць перад гісторыяй лагічна гэтай самай большасці.

## Памылка №2

Калі наконт першай памылкі яшчэ неяк можна зразумець і прыняць аргументы Анатоля Лябедзькі, то другая не вытрымлівае нават такой лагоднасці. Я пра стаўку на Яраслава Раманчука.

Хаця ёсць аргументы і тут. Галоўны — дэмакраты зноў не здолелі дамовіцца, хаця працэдура абрання «адзінага» была ўзгоднена яшчэ за год да выбараў, а калі так, дык «чаму б АГП не паўдзельнічаць у парадзе кандыдатаў? Раманчук сярод іх — адзіны эканаміст».

Анатоль Лябедзька да таго, як праходзіла тая выбарчая кампанія (у сэнсе рэкламы партыі), і сёння не мае сур'ёзных прэтэнзій. Прэтэнзіі — да таго, што адбывалася потым.

Працытую меркаванне самога героя нарыса: «Тое, што адбылося, у стане жорсткай канфрантацыі з маімі прынцыпамі і перакананнямі. Безумоўна, я не магу гэта неяк падтрымаць, магу толькі асудзіць. Але таптацца па ўсіх, хто праявіў там пэўную слабасць, не буду, і сказаў пра гэта адразу пасля выхаду з амерыканкі, бо ўсё добра ведаю сам. У мяне было 108 сутак, каб убачыць тое, з чым там сутыкаюцца людзі».

## Памылковыя міфы

Міф першы: Лябедзька хацеў быць міністрам замежных спраў, а яму давалі толькі пасаду міністра адукацыі. Гэта па афіцыйнай версіі. Вачамі самога ж Анатоля, нічога падобнага не можа быць па вызначэнні, бо ён тады падтрымліваў іншую кандыдатуру — Уладзіміра Сянько. Акрамя таго, ён у хуткім часе атрымаў абсалютна незалежную ад выканаўчай улады пасаду — намесніка старшыні парламенцкай камісіі па міжнародных справах.

Міф другі звязаны з працай у якасці «парламенцкага прадстаўніка прэзідэнта». Сапраўды, калі паглядзець стэнаграмы ўсіх пасяджэнняў Вярхоўнага Савета XIII склікання, то ў іх няма ніводнага радка пра «агучванне прэзідэнцкай пазіцыі». Больш за тое, на парламенцкіх выбарах 1995 года выканаўчая ўлада не толькі не дапамагала Анатолю Лябедзьку, але і відавочна перашкаджала — падкінула яму са сваіх шэрагаў двух канкурэнтаў.

І калі б ён у той час, як кажуць, дэзавуіраваў словы пра свой статус, сёння не было б ніякіх сумневаў на гэты конт. На жаль, нічога падобнага не адбылося. Па якой прычыне — можна толькі гадаць...

Міф трэці звязаны з пераходам у апазіцыю з той прычыны, што «Лябедзька не атрымаў жаданых дзяржаўных пасадаў». Сапраўды, пэўныя прапановы яму рабіліся не аднойчы. Найбольш спакуслівай была прапанова ўзначаліць Прэзідэнцкі савет, але па розных прычынах яна не была рэалізавана.

Потым былі прапановы ўзначаліць мытны камітэт, стаць адным з віцэ-прэм'ераў альбо міністрам па справах моладзі, аднак без завяршэння.

Пасля белых плямаў у СМІ ў снежні 1994 года і сумна вядомага збіцця дэпутатаў фракцыі БНФ у памяшканні Вярхоўнага Савета наступнай вясной, стала відавочна, што ў беларускім грамадстве адбываецца вельмі сур'ёзны раскол. Анатоль Лябедзька быў сярод тых, хто прапанаваў знайсці нейкі кампраміс. Лукашэнка нават даў згоду на правядзенне шырокага круглага стала, аднак ужо раніцай наступнага дня ад свайго рашэння адмовіўся. Было гэта летам 1995 года, і менавіта з гэтага моманту трэба адлічваць развод паміж палітыкамі.

## Каб не было памылак

Як вядома, у сакавіку 2005 года адзіным стаў Аляксандр Мілінкевіч, які на Кангрэсе дэмакратычных сілаў перамог Анатоля Лябедзьку з розніцай у восем галасоў. У кастрычніку таго ж года Палітсавет дэмакратычных сілаў зацвердзіў Анатоля Лябедзьку на пасаду старшыні Нацыянальнага камітэту, які назвалі ценявым урадам.

Узгадаў я гэты момант невыпадкова, бо ён даволі красамоўна сведчыць, што пры жаданні могуць дамовіцца нават беларускія апазіцыянеры. Другая справа — адбываецца гэта далёка не заўсёды.

А шкада. Я, напрыклад, паўгадзіны слухаў пра адрозненні паміж праймерыз і «народным рэферэндумам» і так не зразумеў, у чым іх прынцыповая розніца. Рызыкну дапусціць, што выбаршчыкам гэта будзе яшчэ цяжэй патлумачыць.

ALBA ROCIKA

# ЯК МАСКОЎСКІЯ РАЗБУРАЮЦЬ НАШ «МАСКОЎСКІ»

Віталь СЯМАШКА

**Гісторыя з закрыццём сталічнага аўтавакзала «Маскоўскі», за якой сёлета сочаць тысячы пасажыраў з усёй краіны, абрасла нядаўна новымі падзеямі, абставінамі ды фігурантамі. Магчыма, вакзал і ацалее.**




Мікалай Навумаў, архітэктар «Маскоўскага»

Віктар Талмачоў, ініцыятар стварэння «Беларускага зялёнага фронту»

Аўтавакзал «Маскоўскі»: яшчэ стаіць

## Што адбылося

Паводле ўказа Лукашэнкі № 153 «Аб будаўніцтве шматфункцыянальнага комплексу», Мінгарвыканкам зліквідаваў маршруты Віцебскага напрамку і перанёс іх на аўтавакзал «Усходні». З «Цэнтральнага» цяпер дабіраюцца ў аэрапорт «Мінск–2».

Табло міжгародніх маршрутаў «Маскоўскага» зззяе пустымі вачніцамі. Засталіся чатыры напрамкі — на Барысаў, Нарач, Вілейку ды Жодзіна. Вакол вакзалу патроху пачаліся геадэзічныя ды падрыхтоўчыя працы, прабурылі 4 свідравіны ў вадазабор. Гэта зрабілі мінскія будаўнічыя арганізацыі, звязаныя з расійскім «Газпрамам», які, між іншым, дагэтуль не пералічыў у Беларусь ані капейчыны з запланаваных 13 мільёнаў «зялёных». Не заключана нават дамова па зносу вакзала.

Плаўнае цячэнне «праекта» перапынілі днямі падзеі з «Уралкаліем» ды адказы, што прыйшлі з адміністрацыі Пуціна на два звароты стваральніка ініцыятыўнай групы па абароне «Маскоўскага», кандыдата фізіка-матэматычных навук Віктара Талмачова. Дарэчы, днямі ж гэты невысокі, рухавы пенсіянер ініцыяваў стварэнне руху «Беларускі зялёны фронт», дзе незалежна ад палітычных поглядаў аб'ядналіся экалагічныя арганізацыі.

Пуціна, нібы, закранулі аргументы Віктара Пятровіча, што прапановы кіраўніка «Газпраму» Мілера па ліквідацыі аўтавакзала «ідэалагічна нявытрымана», бо выклічуць «усплёск антырасійскіх настрояў». Таму што гэта «разбурае транспартную інфраструктуру Мінска», а «жыхары, асабліва пенсіянеры, як і 20 год таму, будуць бегаць са станцыі на станцыю». У выніку, насамрэч ужо ў 5 разоў павысіўся час паездкі па гораду на зрынутых з «Маскоўскага» маршрутах, узраслі кошты білетаў, паліва і загазаванасць горада.

Адміністрацыя Лукашэнкі, куды таксама прыйшлі лісты Талмачова, загадала старшыні Мінгарвыканкама разабрацца. Яшчэ і ў сувязі з тым, што Талмачоў, «старэйшына Першамайскі і Мінскі», як называюць яго яшчэ адну грамадскую пасаду сябры, адправіў тэлеграмы на імя прэзідэнта, прэм'ер-міністра і генпракурора, дзе давёў, што «Мілер, якога трэба выклікаць у органы для тлумачэнняў, наносіць такую ж шкоду, як вядомыя Уладзіслаў Баўмгертнер ды Сулейман Керымаў».

2 верасня Талмачоў упершыню быў запрошаны выказацца перад начальнікамі ўпраўленняў Мінгарвыканкама на чале з намесніцай старшыні па транспарту і знешнеэканамічнай дзейнасці Жаннай Бірыч. Пярэчанняў на словы Талмачова, што яны «дапамагаюць Мілеру ажыццявіць рэйдарскі захоп «Маскоўскага» і тэрыторыі вакол яго», не прагучала. Чыноўніка зноў агучылі, маўляў, «дорага ўтрымліваць». «Дык вы ж самі дзеля гэтага вакзал і банкрутуеце!» — усклікнуў Віктар Пятровіч ім у твар.

У кулуарах пасля сустрэчы да яго падышоў адзін з вертыкальшчыкаў, яго былы студэнт. Ён папрасіў прабачэння і сказаў, што «не мы кладземся пад Мілера — нас укладваюць».

## Гісторыя пытання

«Газпрам» плануе пабудаваць у Мінску офіс-хмарачос так званага Заходняга накірунку на тэрыторыі аўтавакзала. Будынак аўтавакзала «Маскоўскі» прызнаны ў 1999-м «лепшай пабудовай года». Паводле Мінстату, сутачная прапускная здольнасць яшчэ нядаўна — 15 200 пасажыраў. На так і не знятай пакуль старой схеме маршрутаў — нядаўняя аўтавеліч «Маскоўскага» — паездкі ад Афінаў да Осла, ад Адэсы да Парыжа. Было 345 у прыгарадных накірунках, 144 у міжгародніх ды міжнародных.

Папярэдне да прыняцця рашэння аб зносе вакзала, у Мінск наведаўся Аляксей Мілер. Стоячы праз дарогу ад аўтавакзала на аглядной пляцоўцы Нацыянальнай бібліятэкі, ён публічна заявіў: «Хутка мы з вышыні нашых кабінетаў будзем так на яе глядзець».

Між іншым, яшчэ раней Мілеру адмовілі ў будаўніцтве ў Пецярбурзе. «Газпрам» не задаволіў варыянт, прапанаваны Кіевам. У Мінску ж, маўляў, у раёне «Маскоўскага» бясплатна аказваюцца падведзеныя ўсе камунікацыі — вада, электрычнасць, транспарт.

Пасля ў беларускім афіцыйным друку раптам з'явіліся артыкулы, дзе «Маскоўскі» называўся «правільным тварэннем», а старшыня Мінгарвыканкаму Ладуцька выказаўся, што «асаблівай каштоўнасці вакзал не мае». Тады ж апублікавалі і памянёны ўказ Лукашэнкі пра знішчэнне будынка.

Мы сядзім у кватэры 70-гадовага Віктара Навумава, архітэктара будынка, ды разглядаем 5 міжнародных узнагарод за яго. Гаспадар паказвае падрыхтаваны ў Беларускім саюзе архітэктараў зварот, дзе адзначаецца, што знішчэнне аўтавакзалу азначае «не толькі страту нацыянальнай культурнай каштоўнасці, але і дэвальвацыю прысуджанай прэзідэнтам РБ Дзяржпрэміі». Тое, што адбываецца, мой суразмоўца ўспрымае як страту 12-гадовага кавалка жыцця — столькі доўжылася будаўніцтва. Штодзённы і штоночны боль. Ён успамінае:

«Скарысталі граніт ды мармур, пасля шкло ды алюміній, але дарагія — вітражы з чорнага металу, падлогі з маналітнай мазаікі. Таму ўражанне ад яго, як «лятаючага». Чыноўнікі кажуць — «мы можам перанесці без стратаў, бо ён не загружаны». Гэта надумана, бо ўсё залежыць ад гаспадара, і вакзал зроблены з улікам перспектыўнага развіцця горада…»

Зазначаю, што паводле таго ж Мінстата, ад «Маскоўскага» ўтрая больш ішло маршрутаў, чым ад «Цэнтральнага». Спадар Навумаў каментуе:

«У цэнтры закладзены непрыемнасці для пасажыраў, бо патрапляеш у «пробкі». І адзін вузенькі выезд адтуль зрабіць — трэба мець розум, пастаўлены на азадак! Па генплану трэба было рабіць вакзал у заходнім накірунку ў сувязі з далейшым будаўніцтвам метро. З «Маскоўскім» мы абышлі саму Маскву. У савецкія часы павіны былі там агульны кашатарыс узгадняць, а Мінск меў права зацвярджаць толькі 3 мільёны. Мы разбілі праект на аб'екты, без якіх вакзал функцыянаваць не можа. І атрымаўся кошт больш за 10 мільёнаў. А так бы Масква паставіла на ім крыж. А цяпер ім трэба пакласці дзяржпрамаўскую лапу на ўвесь Мінск…»

## Народ не маўчыць!

Неафіцыйна работнікам вакзала паведамілі, што дапрацоўваюць апошнія месяцы. Нават ананімна пра гэта яны са мной гаварыць адмаўляюцца. Самая смелая прыбіральшчыца Тамара: «Я пенсіянерка, знайду такую ж працу…»

Пачуўшы нас, самі падышлі кіроўцы таксі. Даводзяць мне, што на «Цэнтральным» ніводнай стаянкі таксі — і «наогул, як да людзей пад'ехаць!»

Двухпалосны ўезд — туды і назад. Тым не менш, ужо плануецца перакінуць туды і міжнародныя маршруты.

Тым часам, групай Талмачова сабрана ўжо 3,5 тысячы подпісаў супраць руйнавання «Маскоўскага». Кожную пятніцу на двары аўтавакзала яны збіраюцца, каб абмяркаваць наступныя дзеянні.

Пабываў там і я. Дыктафонны запіс без праўкі перадасць палкасць і горыч гаманы, што вялася людзьмі розных узростаў ды прафесій.

«На лецішча адсюль ездзім на Лагойшчыну, пад Сілічы заўжды, — кажа маўжная, пажылая кабета. — Перанясуць — хутчэй папуткамі даеду. Усё роўна — тут я бясплатна еду, а там трэба плаціць удвая. А ў мяне група…»

«Я хадзіла прасіць кнігу скаргаў і прапаноў — падскоквае жвавая кабета. — Сказалі, вам не дадзім, бо вы ў нас сёння 52-я! Я хацела прапанаваць не зносіць! Адміністратар сказала — месца не хопіць…»

«Хай другі том заводзяць!» — зазначае Талмачоў. Малады хлопец звяртаецца па-беларуску:

«Я прачытаў на tut.by пра збор подпісаў і адмыслова прыехаў. Калі ўсё згрупуецца на «Цэнтральным», гэта ж як будзе не зайсці ад машын пляц Незалежнасці! І трэба ж нейк берагчы, што пабудавана!»




Фота аўтара

«І хочуць знесці ў 2013-м, які прэзідэнт аб'явіў годам беражлівасці і эканоміі! — цягнуць да сябе пажылыя мужыкі. — Мы ў Серабранцы жывем, едзем у Гарадзішча на лецішча — як нам з палачкай дабірацца? У аэрапорт на працу адсюль ездзілі. Хіба па-гаспадарску — спачатку будаваць, а потым бурыць?! Праходзіць інфармацыя, што на базе «Маскоўскага» будзе пабудавана і казіно. Ужо існаванне Аляксандрава пасажа выклікае рост бандытызму, зафіксаваны з боку расейцаў, што адмываюць тут грошы, збіваюць мінчукоў. Гэта павысіць крымінал у нашым спальным раёне. І гэта патуранне ад кіраўніцтва зверху, у тым ліку ад Лукашэнкі!»

## Спадзяванні на перспектыву

Пасля ўзгаданай сустрэчы ў Мінгарвыканкаме сядзім на лаўцы ля «Маскоўскага» са спадаром Талмачовым. Ён узгадвае, якія варыянты будаўніцтва яны прапаноўвалі ўладам і «Газпраму» за часы змагання: «І на пляцоўцы ля Кургана Славы, і на вялікім «пятачку» ля Маскоўскіх могілак, і на так званым 9-м кіламетры, дзе, праўда, знайшлі парэшткі 30 тысяч расстраляных фашыстамі, а мо і энкавэдыстамі людзей. Але не — Мілер кажа, падавай гатовыя камунікацыі. А месца для новага аўтавакзалу так і не вызначана. І чаму той «Маскоўскі» здаём за 13 мільёнаў, калі толькі першапачаткова ён каштаваў 20 мільёнаў долараў?!»

І ўсё-ткі, кажа Віктар Пятровіч, шанцы ўратавання ёсць. Гэта і нарастаючыя палітыка-эканамічныя супярэчнасці паміж Беларуссю і Расіяй. Той жа чэмпіянат свету па хакею, да заканчэння якога, каб «не псаваць твар» разбурэнне ўжо замарожана. А там і прэзідэнцкія выбары–2015. Знікненне «Маскоўскага» моцна ўдарыць людзей па кашальках і магчымасці бываць на лецішчах! А калі тут будзе пастаўлена вежа, бібліятэка знікне як сімвал культурнага цэнтра Мінску. У тым ліку, паслабне аўтарытэт асабіста Лукашэнкі. «Я, як абаронца вакзала, і ў далейшым прапаную мінчукам нарошчваць намаганні супраць цынічнага размяшчэння газпрамаўскага будынка на перакрыжаванні Філімонава і праспекта Незалежнасці…» — тлумачыць Талмачоў.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## 13 ВЕРАСНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.10** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**09.10** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**10.00** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя).
**11.05** Дак. серыял «Самабытныя культуры» (Чэхія-Вялікабрытанія). 5-я і 6-я серыі.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.20** Дак. серыял «Усе грані ўтрапёнасці».
**13.55** Драматычны серыял «У кожнага свая вайна» (Расія). Заключная серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія). 4-я серыя.
**16.45** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.40** Серыял «Дыхай са мной» (Расія).
**19.20, 23.40** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Біяграфічная драма «Вангелія» (Расія-Беларусь-Балгарыя).
**21.00** Панарама.
**22.00** Меладрама «Страчаныя ў Манхэтэне» (ЗША).
**00.30** Дзень спорту.
**00.40** Камедыйная меладрама «Трыццацігадовыя» (Расія). 4-я серыя.

### ОНТ

**06.00, 08.30, 09.00, 11.00, 13.00, 16.00, 18.00, 20.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе. «Наша раніца».
**09.05** «Жыць здарова!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** «Жаночы доктар 2». Шматсер. фільм.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Вольф Месінг: той, што бачыў скрозь час».
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** Прэм'ера. «Хатняя прыслужніца». Шматсерыйны фільм.
**17.00** Прэм'ера сезону. «У наш час».
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** «Чакай мяне. Беларусь».
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Хачу ў ВІА ГРУ».
**23.25** Фільм «Меланхолія».
**01.50** Начныя навіны.

### СТВ

**06.00, 07.30, 10.30, 13.30, 16.30, 19.30, 22.30** «24 гадзіны».
**06.10** Дзённік «ДобраШоў».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.40** «СТБ-спорт».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.25** Дзённік «ДобраШоў».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі: абед за 30 хвілін».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.50** Дзённік «ДобраШоў».
**13.55** Фільм «Для пачаткоўцаў у каханні». Расія, 2010 г.
**15.45** «Ашуканыя навукай».
**16.50** «Згодна з законам».
**17.20** «Мінсчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Дзённік «ДобраШоў».
**18.35** Прэм'ера. «Сакрэты старажытных прыгажунь».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Шпіёнскі запал». Францыя.
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** Дзённік «ДобраШоў».
**23.05** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** «Гісторыя кахання». Юбілейны канцэрт. 2011 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Рэгіянальная праграма.
**08.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Дэтэктыўны серыял «Жураў» (Расія).
**10.15** Час футболу.
**11.05** Пад грыфам «Вядомыя».
**11.45** Дарожная гісторыя «Кіроўца аўтобуса» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.
**14.15** Меладрама «Мачаха» (СССР).
**16.00** Дэтэктыўны серыял «Пятроўка, 38. Каманда Пятроўскага» (Расія).
**17.15** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Лірычная меладрама «Тарыф на каханне» (Расія).
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Камедыйная меладрама «Нянька па выкліку» (ЗША).
**23.20** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.05** Фактар сілы.
**00.35** Арэна.
**01.05** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Паўфінал.

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Мой горад». Бялынічы.
**08.15** «Магія дрэва». Навукова-папулярны фільм.
**08.30** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле Я.Коласа.
**09.00** «Беларуская экспрэсія». Дак. фільм.
**09.10** «Творцы». Рэжысёр Уладзімір Трацякоў.
**09.45** «Народныя промыслы Расіі». Хустка ўзорчатая.
**10.10** «Праўдзівая гісторыя кінамузыкі». Гісторыя савецкай кінамузыкі. Фільм 4.
**10.40** «Скарбніца Гомельшчыны». Добруш.
**11.05** «Завяшчанне слуцкай княгіні». Дакументальны фільм пра апошнюю слуцкую княгіню Сафію Юр'еўну Алелька.
**11.35** «Гісторыя беларускага тэатра. Нараджэнне». Дакументальны фільм.
**12.00** «Мой горад». Бялынічы.
**12.15** «Чырвоны веласіпед». Мастацкі фільм.
**13.20** «Мара пра космас». Дак. фільм.
**13.50** «Гісторыя беларускай страўні». Мясныя прысмакі.
**14.15** «Адзіная, каханая мая». Паэтычныя навелы па вершах беларускіх паэтаў.
**14.30** «Камертон». Творчасць Даніїла Крамера.
**15.05** «Карані». Галіна Тарасевіч і Людміла Ісак - прадстаўніцы беларускай абшчыны Малдовы.
**15.30** «Драўляны народ». Пра разьбяра, народнага майстра Беларусі Мікалая Тарасюка.
**16.00** «Мой горад». Бялынічы.
**16.15** «Песні мінулага стагоддзя». «Я ўдзячны лёсу «. Раймонд Паўлс.
**17.10** «У рэху імені твайго». Бірутэ. Пра жыццё жонкі князя Кейстута.
**17.30** «Маем рэчы». Гарбата.
**17.40** «Магія дрэва». Навукова-папулярны фільм.
**18.00** «Росчырк часу». Мастак Г.Вяль.
**18.10** «Малады дубок». Кароткаметражны фільм паводле Я.Коласа.
**18.35** «Творцы». Рэжысёр Уладзімір Трацякоў.
**19.10** «Скарбніца Гомельшчыны». Добруш.
**19.35** «Народныя промыслы Расіі». Руская золаташвачкі.
**20.05** «Праўдзівая гісторыя кінамузыкі». Гісторыя савецкай кінамузыкі. Фільм 5, закл.
**20.30** Калыханка.
**20.45** «Свечка». Мастацкі фільм.
**22.20** «АРТіШОК». Знаёмства з творчасцю маладога празаіка Паўла Анціпава.
**22.45** «Песні мінулага стагоддзя». «Я ўдзячны лёсу «. Раймонд Паўлс.
**23.40** «Мой горад». Бялынічы.

### НТВ

**06.00** «НТБ раніцай».
**08.40** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.00** Сёння.
**10.20** Серыял «Вяртанне Мухтара».
**10.55** «Да суда».
**11.55** «Суд прысяжных».
**13.00** Сёння.
**13.25** «Суд прысяжных. Канчатковы вердыкт».
**14.25** «Справа лекараў».
**15.15** «І зноў добры дзень!».
**15.40** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** «Пракурорская праверка».
**17.40** «Гаворым і паказваем». Ток-шоў.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** Серыял «Братэрства дэсанта».
**23.20** Дэтэктыўны серыял «Карпаў».

### МИР

**05.00** Т/с «Агонь кахання».
**06.40** Мультфільмы.
**07.05** «Цік-так».
**07.20** Т/с «Заручальны пярсцёнак».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** М/ф «Сагдыяна».
**11.15, 01.50** «Сардэчна запрашаем».
**11.45** «Рэспубліка сёння».
**12.25, 02.30** Т/с «Клон».
**15.25** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**16.20** Т/с «Чорны крумкач».
**18.25** Д/ф «З нагоды. Яе звалі Таня».
**20.10** Т/с «Увага, гаворыць Масква».
**22.25** М/ф «Ахоўнік для дачкі».
**00.20** М/ф «Нейлон 100 адсоткаў».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00, 11.50** Студыя «Белсат».
**08.30, 13.25** Рэпартэр.
**08.55, 13.50** Аб'ектыў.
**09.20, 14.15** Euromaxx.
**09.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**10.05** «Бландзінка», серыял: 6 серыя.
**10.50** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**11.40** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**14.45** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**14.55** «Бландзінка», серыял: 6 серыя.
**15.45** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**16.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**16.40** «Ранча», серыял: 6 серыя.
**17.30** Рэпартэр.
**18.00** На колах.
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** Студыя «Белсат»: інфармацыйна-публіцыстычны вечар.
**19.15** Студыя «Белсат»: Агляд медыяў.
**19.20** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**19.25** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**19.30** Студыя «Белсат»: Навіны.
**19.40** Студыя «Белсат»: Размова У. Мацкевіча / М. Жбанкова / С. Калінкінай.
**19.50** Не прапусці! (параднік гледача).
**20.00** Студыя «Белсат»: Навіны.
**20.10** Студыя «Белсат»: Агляд падзеяў культуры.
**20.15** Студыя «Белсат»: Dэвайс.
**20.35** ПраСвет.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** «Дом», серыял, Польшча: 1 серыя.
**22.50** Эксперт (сатырычная праграма).
**23.20** Студыя «Белсат».
**00.55** ПраСвет.
**01.20** Аб'ектыў.
**01.45** Вагон.

## 14 ВЕРАСНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.50** Камедыя «Паласаты рэйс» (СССР).
**08.20** Існасць.
**08.50** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.45** Здароўе.
**11.30** Усё як мае быць!
**12.10** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**13.50** Таямніцы следства.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дак. цыкл «Зорнае жыццё».
**16.20** Каробка перадач.
**16.50** Анімацыйны фільм «Вольт» (ЗША).
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Прэм'ера! Камедыя «Аканом» (Расія).
**21.00** Панарама.
**21.40** Прэм'ера! Трылер «Бункер» (Калумбія-Іспанія).
**23.30** Дзень спорту.
**23.40** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Сінія ночы». Шматсерыйны фільм.
**14.05** Камедыя «Джэк-Медзведзяня».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Адгадай мелодыю».
**16.55** Кіно ў колеры. «Тры Таполі на Плюшчысе».
**18.20** «Адзін супраць усіх».
**19.05** Прэм'ера. «Хвіліна славы. Дарога на Алімп!».
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.55** Прэм'ера. «Паспець да паўночы».
**23.55** Прэм'ера. Рамантычная камедыя «Каханне жыве тры гады».

### СТВ

**06.00** Фільм «Шпіёнскі запал». Францыя.
**07.40** Фільм «Па сакрэце ўсяму свету». Беларусьфільм, 1976 г. 1-я серыя.
**08.45** «Чыстая праца».
**09.30** Фільм «Давай пажэнімся». 1982 г.
**11.00** «Жанчыны ХХ стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Прыгоды дылетанта».
**12.40** Фільм «Ціхі цэнтр». 1 і 2 серыі.
**14.40** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** Фільм «Белыя росы». СССР, 1983 г.
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** СТВ уяўляе: 1/2 фіналу Міжнароднага музычнага праекта «ДобраШоў».
**22.25** Фільм «Інсайт». Беларусь, 2009 г.
**00.00** «Зорны рынг». Дайджэст.
**01.00** Фільм «Дзікае паляванне караля Стаха». Беларусьфільм, 1979 г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.55** Мультфільмы.
**08.45** Фільм-казка «Каралеўства крывых люстэркаў» (СССР).
**10.00** Пазакласная гадзіна.
**10.20** Тэлебарометр.
**10.25** Меладрама «Мачаха» (СССР).
**12.15** Пад грыфам «Вядомыя».
**12.50** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.25** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**14.45** Лірычная меладрама «Тарыф на каханне» (Расія).
**16.40** Камедыйная меладрама «Нянька па выкліку» (ЗША).
**18.35** Цудоўная сямёрка. Вяртанне. Кастынг.
**19.15** Ваша лато.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** КЕНО.
**21.05** Гістарычная драме «Тарас Бульба».
**23.30** Валейбол. Чэмпіянат Еўропы. Жанчыны. Фінал.
**01.35** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Таямніца душы».
**08.30** «Размовы пра духоўнае».
**08.35** «Лясныя арэлі». Мастацкі фільм.
**09.35** «Купалаўцы: погляд праз час. Сёння і заўтра».
**09.55** «Мая васьмідзесятая восень». Дакументальны фільм.
**10.35** «Вежы Наваградка». Дак. фільм.
**10.45** «Друзей моих прекрасные черты.» Рэжысёр Валерый Раеўскі.
**11.15** «Скульптар». Дак. фільм.
**11.35** «Таямнічая кветка папарацi». Навукова-папулярны фільм.
**11.50** «Янка Маўр. Капітан дзіцячых мараў». Дакументальны фільм.
**12.25** «Пра кінаржысёра». Фільм-партрэт кінаржысёра А.Карпава-старэйшага.
**12.50** «АРТіШОК». Знаёмства з творчасцю маладога празаіка Паўла Анціпава.
**13.20** «Размовы пра духоўнае».
**13.25** «Прынцэсы нямецкія - лёсы рускія.». Фільмы першы, другі і трэці.
**15.05** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі пад кіраўніцтвам Валянціна Дудкевіча і Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г.І.Цітовіча.
**16.25** «Радуйся!» Фільм-партрэт кампазітара Віктара Капыцькі.
**16.50** «Зроблена!» Метро. Пра гісторыю будаўніцтва Мінскага метрапалітэна.
**17.15** «Карані». Настаўніца музыкі.
**17.45** «Лёс зубра». Навукова-папулярны фільм.
**18.00** «Маем рэчы». Аптэка.
**18.15** «Купалаўцы: погляд праз час. Сёння і заўтра».
**18.35** «Размовы пра духоўнае».
**18.40** «Сецевая пагроза». Дэтэктыў. 1-я і 2-я серыі.
**20.30** Калыханка.
**20.50** «Сецевая пагроза». Дэтэктыў. 3-я і 4-я серыі.
**22.40** Сусветнае кіно. «Выпадак на мосце праз Савіны ручай, або Гісторыі Амброза Бірса пра грамадзянскую вайну». Ваенная драма.
**23.50** «Прынцэсы нямецкія - лёсы рускія.». Фільмы першы, другі і трэці.

### НТВ

**06.21** Дэтэктыўны серыял. «Дарожны патруль-2» 1-2 серыі. Расія. 2009.
**08.00** Сёння.
**08.20** Іх норавы.
**08.55** Гатуем з Аляксеем Зіміным.
**09.24** Справа густу.
**10.00** Сёння.
**10.19** Галоўная дарога.
**10.52** Кулінарны паядынак.
**11.52** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.22** «Танец жывата». Меладрама. Расія.
**14.58** Чыстасардэчнае прызнанне.
**15.32** ГРУ. Таямніцы ваеннай выведкі.
**16.18, 18.02, 19.23, 20.18, 22.03** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». Расія.
**19.00** Сёння.
**23.42, 00.36** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Працяг». Расія, 2009.

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Мільён пытанняў пра прыроду».
**08.20** «Эксперыментатары».
**08.35** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Свет Спорту».
**09.40** «Даведнік».
**10.05, 20.35** «Зроблена ў СССР».
**10.30** М/ф «Пра бізнэсмэна Фаму».
**11.55, 00.15** М/ф «Воблака-рай».
**13.20, 01.40** М/ф «Коля - перакаці поле».
**15.10** Т/с «Іншае жыццё».
**19.50** «Навіны Садружнасці. Культура».
**21.00** М/ф «Яшчэ раз пра каханне».
**22.40** М/ф «Неба. Самалёт. Дзяўчына».
**03.20** М/ф «Пірасмані».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Студыя «Белсат».
**08.30** ПраСвет.
**08.55** Аб'ектыў.
**09.20** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**09.40** Казкі для дзетак.
**10.10** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 2 серыя.
**10.35** Асабісты капітал.
**10.55** На колах.
**11.25** Два на два (тэледыскусія).
**11.50** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** Невядомая Беларусь: «Глыбоцкая змова», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**13.00** МакраФон: «Be Free–2008», фэстываль: выступ гурта «Крама».
**13.40** «Глыбокая вада–2», серыял: 1 серыя.
**14.30** «Каралеўства шчасця – Бутан: дзяржава ў Гімалаях», дак. фільм, 2008 г., Германія.
**15.15** «Дом», серыял: 1 серыя.
**16.45** «Час гонару», серыял: 50 серыя.
**17.30** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 11 серыя.
**18.00** Еўропа сёння.
**18.25** Назад у будучыню.
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх.
**19.00** «Традыцыйная кітайская медыцына», дак. фільм, 2003 г., Канада–Германія.
**19.45** Гісторыя пад знакам Пагоні.
**20.00** Зона «Свабоды».
**20.30** Відзьмо-невідзьмо: выд. 35.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Форум (ток-шоу).
**22.00** Суботні сеанс: «Аперацыя Самум», баявік, 1999 г., Польшча.
**23.35** ПраСвет.
**00.00** «Пітбуль», серыял: 28 серыя.
**00.45** «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 2.
**01.15** Аб'ектыў.
**01.30** Вагон.

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ



## 15 ВЕРАСНЯ, НЯДЗЕЛЯ

### 1 БЕЛАРУСЬ

**07.30** Прыгодніцкі баявік «Белае сонца пустэльні» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).
**10.40** Медычныя таямніцы.
**11.15** Зона Х. Вынікі тыдня.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Паласаты рэйс» (СССР).
**14.00** Заўтра - гэта мы!
**14.25** «Terra incognita. Беларусь невядомая».
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Адмысловы рэпартаж АТН.
**15.50** «Залаты патэфон». Парадыйнае шоў.
**17.55** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**18.50** Меладрама «Апошняя роля Рыты» (Украіна).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**22.00** Журналісцкае расследаванне.
**22.35** Псіхалагічная драма «У кампаніі мужчын» (Вялікабрытанія-ЗША).
**00.30** Камедыйная меладрама «Выратаваць боса» (Украіна-Расія).

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь.
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Вясельны перапалох».
**12.25** Прыгодніцкі фільм «Моцны арэшак 2».
**14.20** «КВЗ». Прэм'ер-ліга. Фінал.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера. «Куб».
**17.30** «Эстрадны кактэйль».
**18.50** «Я люблю Беларусь!».
**20.00** Контуры.
**21.05** Прэм'ера сезону. «Ледавіковы перыяд».
**00.05** Прэм'ера. Канцэрт «Бі-2».

### СТВ

**06.00** Фільм «Белыя росы». СССР, 1983 г.
**07.35** Фільм «Па сакрэце ўсяму свету». Беларусьфільм, 1976 г. 2-я серыя.
**08.40** Фільм «Павадыр». Беларусь, 2001 г.
**10.30** «Аўтапанарама».
**11.00** «Уявіце сабе».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** Фільм «Ціхі цэнтр». Беларусьфільм, 2010 г., 3 і 4 серыі.
**14.40** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** Фільм «Трамвай у Парыж». Беларусьфільм, 2010 г.
**19.30** «Тыдзень».
**20.40** Фільм «Прабач за каханне». Італія.
**22.50** «Прафесійны бокс».
**23.50** Фільм «Клас». Эстонія, 2007 г.
**01.35** «Дакументальны праект».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**08.05** Мультфільмы.
**09.15** Фільм-казка «На залатым ганку сядзелі» (СССР).
**10.25** Пазакласная гадзіна.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Гістарычная драма «Тарас Бульба».
**13.20** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).
**14.40** Фантастычны баявік «Улада агню» (Вялікабрытанія-Ірландыя-ЗША).
**16.45** Прыгодніцкі баявік «Маленькі вялікі салдат» (Кітай-Ганконг).
**18.40** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА.
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** Спортлато 5 з 36.
**21.05** КЕНО.
**21.10** Меладраматычны кінаальманах «Нью-Ёрк, я люблю цябе» (ЗША).
**23.10** Спорт-кадр.
**23.55** Камедыйны серыял «Таксі» (Украіна).

### 3 БЕЛАРУСЬ

**08.00** «Абіцель душы».
**08.25** Мультфільмы.
**09.15** «Сецевая пагроза». Дэтэктыў. 1-я - 4-я серыі.
**13.05** «Наперад у мінулае». Фальклорная экспедыцыя.
**13.35** «Андрэй і злы чарадзей». Мастацкі фільм.
**14.45** «Барыс Пакроўскі. Адкрыцці».
**15.35** «Зроблена!» Бібліятэка. Пра Нацыянальную бібліятэку Рэспублікі Беларусь.
**16.05** «Плошча мастацтваў...» Вядучая — Бэла Масумян.
**16.35** «Камертон». Дзмітрый Салярцінскі.
**17.05** «Косава. Маленькі горад з вялікай гісторыяй». Дакументальны фільм.
**17.20** «Сокал над гарадам». Навукова-папулярны фільм.
**17.50** «Геадэзічная Дуга Струвэ». Навукова-папулярны фільм.
**18.00** «Бубен і барабан». Дак. фільм.
**18.35** «Доўгі шлях да сябе». Народны артыст Беларусі Генадзь Гарбук.
**19.15** Сусветнае кіно. «Выпадак на мосце праз Савіны ручай, або Гісторыі Амброза Бірса пра грамадзянскую вайну». Ваенная драма.
**20.30** Калыханка.
**20.45** Канцэрт Дзяржаўнага ансамбля танца Беларусі пад кіраўніцтвам Валянціна Дудкевіча і Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Беларусі імя Г.І.Цітовіча.
**22.00** «Барыс Пакроўскі. Адкрыцці». Аб жыцці і працы савецкага і расійскага тэатральнага рэжысёра.
**22.50** «Паўлінка». Спектакль.

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял. «Дарожны патруль-2» 3-4 серыі. Расія. 2009.
**08.00** Сёння.
**08.19** Дзікі свет.
**08.49** Іх норавы.
**09.24** Ядзім дома!
**10.00** Сёння.
**10.19** Дачны адказ.
**11.24** Паедзем паядзім.
**11.57** Цуд тэхнікі.
**12.29** Кулінарныя курсы.
**13.00** Сёння.
**13.17** «Ружы для Эльзы».
**15.13** Чыстасардэчнае прызнанне.
**15.40** ГРУ. Таямніцы ваеннай выведкі.
**16.25** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 9-10 серыі. Расія.
**18.13** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 11 серыя. Расія.
**19.00** Сёння.
**19.23, 20.20, 22.05** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». Расія.
**23.49** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Вяртанне» 1 серыя. Расія, 2010.
**00.42** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Вяртанне» 2-3 серыі. Расія, 2010.

### МИР

**05.00** Д/ф «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**08.05** «Ведаем рускую».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «Аэрасвет».
**09.25** «Прыгоды Македонскай».
**10.10, 23.25** М/ф «Прыгожы і ўпарты».
**12.55** М/ф «Сагдыяна».
**15.10** Ток-Шоў «Яшчэ не разам».
**15.45, 21.00** Т/с «Гісторыя лётчыка».
**20.00** Выніковая праграма «Разам».
**21.50** М/ф «Пастка для спяца».
**02.00** М/ф «Пра бізнэсмэна Фаму».
**03.25** М/ф «Музычная гісторыя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Нодзі ў краіне цацак».
**07.40** «Эміль з Лёнэбэргі», серыял: 2 серыя.
**08.05** «Калі сэрца ў чаканні», серыял: 2 серыя.
**08.30** Без рэтушы: «Альпіністка», рэпартаж, 2013 г., Беларусь.
**08.45** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.05** Рэмарка (культурніцкая праграма).
**09.30** Рэпартэр (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**10.00** «Прыгоды пана Міхала», тэлесерыял: 2 серыя.
**10.30** Еўропа сёння (тэлечасопіс каналу «Нямецкая хваля»).
**11.00** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**11.10** «Царкоўка з Эпіцэнтру», рэпартаж, Канада.
**11.35** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.55** «Бландзінка», серыял: 6 серыя.
**12.45** «Сон-трава», канцэрт гурта «Троіца»: ч. 1.
**13.20** «Аперацыя Самум», баявік, 1999 г., Польшча.
**14.45** Назад у будучыню (гістарычная праграма).
**15.00** «Традыцыйная кітайская медыцына», дак. фільм, 2003 г., Канада–Германія.
**15.40** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**16.05** Форум (ток-шоў).
**16.55** «Па Транссібе», дак. фільм, 2007 г., Германія.
**18.30** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**18.40** Англійская для дзяцей.
**18.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**19.00** «Час гонару», серыял: 50 серыя.
**19.50** Моўнік (лінгвістычная праграма).
**20.05** Дакументальная гадзіна: «Рэп па-арабску», дак. фільм, 2011 г., Канада.
**21.00** Два на два (тэледыскусія).
**21.25** Эксперт (сатырычная праграма).
**22.00** Фільматэка майстроў: «Чорная Вяргіня», дэтэктыў, 2006 г., ЗША.
**00.00** «Палітыканы», серыял: 3 серыя.
**00.45** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд): выд. 35.
**01.10** Два на два (тэледыскусія).
**01.35** Вагон (сатырычна-забаўляльная праграма).

---

## Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

### Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**

БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ____________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ____________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ______________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня

Кассир Всего

ПАРТЫІ

# БУНТ РЭЖЫСЁРА-ПАЛІТЫКА

Алег НОВІКАЎ

**Славуты брытанскі рэжысёр вырашыў расколаць Лейбарысцкую партыю.**



Рэжысёр выступіў суаўтарам адкрытага ліста з заклікам стварэння на Альбіёне новай партыі — «Левае адзінства» (LU)

Тое, што Кен Лоўч (брытанскі кіношнік, лаўрэат Канскага і Берлінскага фестываляў) заўсёды быў палітычна ангажаваным, вядома ўсім. Нейкім чынам яму заўсёды ўдавалася сумяшчаць сваю творчасць і палітычную актыўнасць. Спачатку ён быў лейбарыстам, пасля падаўся да трацкістаў. Апошнім часам яго бачылі ў кампаніі Джорджа Галоўэя (былы лейбарыст, які заснаваў сваю партыю Respect). Гэта без уліку актыўнага ўдзелу Лоўча ў грамадскіх кампаніях салідарнасці з Палесцінай, лонданскімі бамжамі, чачэнскімі сепаратыстамі і Джуліянам Асанжам. Аднак усё ранейшае выглядае дробяззю ў параўнанні з тым, што Кен задумаў зараз.

Рэжысёр выступіў суаўтарам адкрытага ліста з заклікам стварэння на Альбіёне новай партыі — «Левае адзінства» (LU). Ініцыятары нават не хаваюць, што набор кадраў у новую структуру будзе ісці за кошт лейбарыстаў, якія расчараваліся ў сваім кіраўніцтве. У прынцыпе, брытанская гісторыя ведае шмат спробаў стварэння партый, альтэрнатыўных лейбарысцкай. Аднак цяпер — асаблівы выпадак. Брытанская палітычная сістэма развальваецца на вачах. Бацькоў-заснавальнікаў LU, відавочна, акрыляе ўздым правапапулісцкай Партыі незалежнасці Аб'яднанага Каралеўства (UKIP). UKIP, якая больш гучна за кансерватараў крытыкуе Еўрасаюз і смела агучвае нацыяналістычныя ксенафобскія лозунгі, цяпер карыстаецца падтрымкай каля 10 працэнтаў брытанскіх выбаршчыкаў.

Падобны сцэнар падзей — разбурэнне рэфармісцкага цэнтра — Лоўч і яго сябры рыхтуюць для левага спектра брытанскай палітыкі. І ўсё, быццам, гэтаму спрыяе. Сапраўды, лейбарысты ніяк не могуць набыць форму, хаця, здавалася, знаходжанне ў апазіцыі ў часы крызісу павінна прыносіць ім дывідэнты. Між тым, рэйтынг партыі — толькі 35 працэнтаў (у партыі кансерватараў не нашмат менш). Аднак значна горш тое, што электарат не верыць у здольнасць цяперашніх лейбарыстаў кіраваць краінай. Паводле апытанняў, толькі 24 працэнты брытанцаў мяркуюць, што штаб Эда Мілібэнда (лідар лейбарыстаў) кампетэнтны ў пытаннях дзяржаўнага менеджменту. Увогуле, толькі 46 працэнтаў тых, хто галасаваў на апошніх выбарах за лейбарыстаў, хацелі б, каб Мілібэнд быў партыйным лідарам на парламенцкіх выбарах 2015 года.

Фрустрацыю ў стане лейбарыстаў тлумачаць па-рознаму. Напрыклад, шмат хто лічыць, што Эд па асабістых якасцях не цягне на лідара. Быццам, Мілібэнд не можа дакладна сфармуляваць і даслаць людзям адказ на пытанне: чаму іх жыццё палепшыцца ў выпадку змены кабінету. Другія кажуць, што галоўны яго пралік — у тым, што лейбарысты лёгка аддалі кансерватарам імідж палітычнай сілы, якая абараняе сям'ю і здольная несці адказнасць за свае ўчынкі. Апошнім часам сярод лейбарыстаў папулярная думка, што яны занадта доўга ігнаравалі негатыўны ўплыў эміграцыі на стан брытанскага пралетарыяту. Гістарычнай падзеяй называе прэса нядаўні выступ аднаго з дэпутатаў-лейбарыстаў, які патрабаваў забараніць буйным кампаніям «Tesco» і «Next» браць на працу эмігрантаў.

Аднак хапае і тых, хто сцвярджае, што Эду Мілібэнду бракуе паслядоўнага класавага падыходу. «Партыі лейбарыстаў не ўдалося давесці да грамадства галоўны аргумент — не выдаткі на сацыяльнае забеспячэнне разбурылі брытанскую эканоміку, а крызіс нічым не стрыманага капіталізму», — гаворыцца ў адной з праклямацый левай апазіцыі. Яшчэ ў сакавіку левымі была заснаваная ініцыятыва за стварэнне новай левай партыі. Генезіс новай арганізацыі ішоў вельмі павольна, і невядома, чым бы ён скончыўся, калі б не казус Стэфані Ботрыл.

Стэфані — 53-гадовая хатняя гаспадыня з аднаго з раёнаў Лондану пакончыла з сабою, паколькі павінна была з'ехаць з роднага дому з-за немагчымасці плаціць новы падатак, т.зв. bedroom tax. Трагічнае становішча брытанцаў накшталт Стэфані ілюструе той факт, што падатак складаў усяго 10 фунтаў на тыдзень. Аднак гэта сума настолькі падарвала бюджэт жанчыны, што тая вырашыла пайсці з жыцця.

Перад тым, як здзейсніць акт суіцыду, Стэфані напісала эмацыйны ліст, у якім пераклала ўсю адказнасць за сваю смерць на ўрад. Той факт, што закон пра bedroom tax быў падтрыманы ў парламенце лейбарыстамі, быў выкарыстаны апанентамі Мілібэнда як галоўны аргумент для крытыкі кіраўніцтва партыі.

На хвалі абурэння курсам Мілібэнда ў грамадстве павялічыўся інтарэс да ідэі стварэння альтэрнатыўнай лейбарыстам партыі. Яшчэ больш спрыяла праекту рэформа мадэлі адносін з прафсаюзамі, якую пачаў сам Мілібэнд. Раней чальцы прафсаюзаў аўтаматычна станавіліся афіляванымі чальцамі лейбарысцкай партыі, а частка іх прафсаюзных складак ішла ў фонд партыі. Мілібэнд абвясціў пра пачатак перагляду ўзаемаадносін з прафсаюзамі. Сяброўства ў прафсаюзе больш не будзе азначаць аўтаматычнага сяброўства ў партыі.

Паколькі прафсаюзы і так сварыліся з лейбарыстамі, і нават паспрабавалі выставіць свайго кандыдата на мясцовыя выбары ў адным шатландскім горадзе, не выключана, што прафцэнтры пачнуць гуляць у палітыку самастойна.

Як след, згаданы ліст за подпісам Кена Лоўча пра неабходнасць новай левай партыі быў успрыняты ў грамадстве вельмі сур'ёзна. Пасля яго публікацыі, як казаў Гарбачоў, «працэс пайшоў». Петыцыю за стварэнне «Левага адзінства» хутка падпісалі больш за 10 тысяч чалавек. Ужо створаныя каля 100 асяродкаў будучай арганізацыі. Дарэчы, арганізацыі структур новай партыі дапамог нядаўні рэліз дакументальнага фільму «Дух 45-га», які зрабіў усё той жа Кен Лоўч. Гэта фільм пра тое, як на базе народнага адзінства, якое паўстала падчас вайны, у пасляваеннай Англіі былі праведзеныя глабальныя для свайго часу сацыяльныя рэформы.

Непасрэдна новая партыя павінна паўстаць у лістападзе, калі яе актывісты збяруцца на канферэнцыю. Галоўная задача — пачаць стварэнне лакальных партыйных структур, на базе якіх можна будзе праводзіць парламенцкую кампанію ў 2015-м. Настрой у сяброў LU баявы. У грамадстве відавочны рост левых і пацыфісцкіх настрояў у сувязі з чуткамі пра магчымую вайну ў Сірыі. Таксама варта згадаць, што ў 2015 годзе ўпершыню галасаваць можна будзе з 16-ці гадоў. Як вядома, маладым людзям уласцівыя больш радыкальныя погляды, што можа прынесці новаствоcранай партыі добрую порцыю галасоў.

Праўда, гэта кампанія будзе не лёгкай. Да выбараў засталося вельмі мала часу — каля 20 месяцаў. У дадатак унутры яшчэ нават не створанай партыі ўжо з'явіліся сектанцкія платформы, якія высвятляюць, хто ў кіраўніцтве апартуніст або рэвізіяніст. Таксама не факт, што прафсаюзная бюракратыя пагодзіцца падтрымліваць LU. Яшчэ не забыліся, як прафсаюзы віталі ліберальныя рэформы Тоні Блэра. Шмат тут вырашыць прызначаны на канец верасня Кангрэс прафсаюзаў.

Нарэшце, лейбарысты наўрад ці так проста здадуць свае пазіцыі. Эд Мілібэнд ужо заявіў, што партыя рыхтуецца выступіць з серыяй ініцыятыў, якія тычыцца тэмы сацыяльнай абароны. А адзін з прыхільнікаў Мілібэнда нагадаў, што Маргарэт Тэтчэр таксама ніколі не была папулярнай ні ў народзе, ні ў сваёй партыі. Аднак як толькі прыходзіў дзень галасавання, выбаршчыкі дружна абіралі Жалезную лэдзі.

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Уласна кажучы, для расійскай дзяржавы галоўнае пытанне — гэта не тое, калі і як будзе вызвалены закладнік, узяты беларускімі ўладамі. Галоўнае пытанне — ці прымусяць расійскія ўлады сваіх партнёраў паводзіць сябе прыстойна, ці дазволяць мяняць расійскія рублі на танныя словы пра славянскае братэрства. Вы чулі, да прыкладу, хоць аб адным канфлікце Расіі і Арменіі? А ўсё таму, што супярэчнасці вырашаюцца цывілізавана, без гучных слоў і тым больш выхадак. З беларускім лідарам сітуацыя адваротная — ні года без скандалу. Самы час успомніць аб тэрміне «мяккая сіла», вывучэнне якога апошнія гады пачала расійская дыпламатыя.

**«Новая газета» (Расія)**

Некаторыя назіральнікі лічаць, што ад удару па Беларусі Уладзіміра Пуціна спыняе толькі яго жаданне завабіць Украіну на бок Расіі. Украіна ў лістападзе збіраецца падпісаць пагадненне з ЕС аб асацыяцыі. Пуцін хоча, каб Украіна далучылася да Мытнага саюза. Іншыя эксперты мяркуюць, што падобныя асцярогі далёкія ад ісціны. Пуцін не саромеецца ў сродках. Масква не спыніцца ні перад чым, каб утрымаць былыя савецкія дзяржавы ў сваім падначаленні. У такім выпадку Беларусь і яе кіраўніка чакае цяжкая восень.

**«Independente» (Вялікабрытанія)**

Відавочна, што надыходзіць канец «беларускаму эканамічнаму цуду». Напэўна, Лукашэнка спадзяваўся на далейшыя расійскія датацыі ў выглядзе нізкіх цэн за энергарэсурсы як плату за палітычную і эканамічную лаяльнасць пры уступленні ў Мытны саюз. Масква, на яго думку, аказалася няўдзячнай, і датацыі рэзка знізіла, а кошты павялічыла. Як вынік — высокія падаткі, крадзеж і карупцыя, адсутнасць прыватнага бізнэсу і любых іншых інвестыцый, акрамя дзяржаўных. Заезджыя маскоўскія агітатары за Мытны саюз і іх украінскія хаўруснікі ўвесь час распавядаюць нам легенды пра тое, якое нас, украінцаў, чакае шчасце ў Мытным саюзе. Спрачацца з імі беспаспяхова. Трэба проста паглядзець на Беларусь і яе эканоміку. Тое ж чакае і Украіну, калі яна адмовіцца ад еўрапейскага курсу.

**«День» (Украіна)**

Рашэнне арыштаваць Баўмгертнера — гэта свайго роду шантаж расійскай улады. Калі няма магчымасці пагражаць «сыходам на Захад», то можна паспрабаваць уцягнуць яе ў палітыка-эканамічны гандаль. Стаўка робіцца на тое, што зараз у Масквы, мабыць, найгоршыя адносіны з Захадам за апошнія гады — «перазагрузка» скончылася, «справа Сноўдэна» і сірыйская праблема сталі нагодамі для высвятлення адносінаў паміж Расіяй і ЗША. У гэтых умовах Масква, на думку беларускага прэзідэнта, павінна пайсці на саступкі свайму гістарычнаму саюзніку Мінску — прычым не толькі ў калійным, але і ў іншых пытаннях. У Расіі сапраўды былі гатовыя — хоць і не занадта ахвотна — цярпець беларускія палітычныя рэверансы, разумеючы, што ў Еўропе лукашэнкаўскі рэжым ніхто не чакае. Але арышт грамадзяніна Расіі ўспрымаецца не толькі ў Белым доме, але і ў Крамлі як абраза, якую нельга ўспрымаць па-філасофску.

**РБК (Расія)**

Расія пачала самыя відавочныя крокі ціску на Беларусь. Харчовая прадукцыя і нафта з'яўляюцца важнымі экспартнымі таварамі для эканомікі краіны. Яшчэ адзін удар па даходах Беларусі адбыўся раней, калі «Уралкалій» адмовіўся ад супрацоўніцтва з «Беларуськаліем». Для Беларусі зніжэнне аб'ёмаў паставак за мяжу, а таксама абвал цэн на ўгнаенні азначае велізарныя страты. Ужо зараз Лукашэнка кажа аб шкодзе ў 100 мільёнаў долараў. Гэта, у сваю чаргу, б'е па плацежным балансе краіны і можа прывесці да дэвальвацыі нацыянальнай валюты. Краіна да ўсяго іншага набрала шмат даўгоў. Толькі ў 2013 годзе ёй трэба выплаціць па знешніх пазыках больш за 3 мільярда долараў.

**«Взгляд» (Расія)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### УКРАІНА. КУБАНЬ — ЗОНА ГЕАПАЛІТЫЧНЫХ ІНТАРЭСАЎ

Украіна хоча дабівацца далучэння Кубані, — так вырашылі ўдзельнікі сходу ў Кіеве, які адбыўся 31 жніўня. Падстава для прэтэнзій стаў той факт, што першымі каланістамі Кубані былі казакі з Запарожскай Сечы. Дарэчы, указ Кацярыны ІІ аб перасяленні казакоў на Паўночны Каўказ быў падпісаны менавіта 31 жніўня, 221 год таму. На думку ўдзельнікаў мітынгу, гэта дата павінна адзначацца ва Украіне як дзяржаўнае свята — Дзень пачатку ўкраінізацыі Кубані. Другім крокам, на думку выступоўцаў, павінна стаць спецыяльная ўрадавая праграма падтрымкі ўкраінскіх культурных і грамадскіх праектаў на Кубані. Увогуле, некаторыя ва Украіне лічаць, што далучэнне Кубані дазволіць цалкам вызваліцца ад залежнасці з Усходу, паколькі можна будзе наладзіць прамыя эканамічныя кантакты з багатымі на нафту і газ краінамі Каўказу і Усходу. Нягледзячы на прысутнасць на акцыі прадстаўнікоў вядучых украінскіх нацыянал-дэмакратычных партый, агучаныя заявы падаюцца ўтапічнымі. Галоўная праблема — у тым, што кубанскія казакі, хаця і размаўляюць на дыялекце ўкраінскай мовы, у масе сваёй лічаць сябе рускімі патрыётамі. Няма вялікага інтарэсу да кубанскага пытання і сярод украінцаў. На мітынг прыйшло ўсяго 50 чалавек.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ЗША. ВЯРТАННЕ КЛАНУ КЕНЭДЗІ

Паколькі Барак Абама, паграnumbers жаючы Сірыі вайной, апошнім часам усё больш нагадвае Буша-малодшага, левая грамадскасць ЗША знаходзіцца ў стане апатыі. Аднак цяпер на гарызонце з'явіўся прамень надзеі. У палітыку вяртаецца сям'я Кенэдзі, чальцы якой заўсёды выступалі пад лева-ліберальнымі лозунгамі. У фокусе агульнай увагі 55-гадовая Караліна — дачка прэзідэнта Джона Кенэдзі. Яе прызначэнне на пасаду пасла ЗША ў Японіі шмат хто лічыць стартам палітычнай кар'еры. Ніхто не хавае, што гэта пасада — справа рук самога Абамы, які вельмі цёпла ставіцца да дачкі Кенэдзі. У тым ліку таму, што ў 2008 годзе падчас партыйных праймерыз Караліна публічна падтрымала Абаму, што спрыяла росту яго аўтарытэту сярод аднапартыйцаў. Спачатку ў якасці падзякі Абама намагаўся прасунуць Караліну ў Сенат, аднак яна аказалася не здольнай правесці належным чынам выбарчую кампанію. Пасля жанчыну спрабавалі накіраваць падслом у Ватыкан, аднак Папа быў рашуча супраць, паколькі прадстаўнікі клану Кенэдзі традыцыйна падтрымліваюць права на аборты. У выніку Караліну ўладкавалі ў Токіа. Што будзе далей, цяжка прагназаваць. Новы пасол падабаецца шмат каму, аднак яна не мае ніякага попыту працы ў пасольствах, і ўвогуле раней спрабавала рабіць кар'еру літаратара.

**Паводле польскай прэсы**

### ЦЭНТРАЛЬНАЯ АМЕРЫКА. 500 ГАДОЎ ТАМУ ЕЎРАПЕЙЦЫ ПАБАЧЫЛІ ЦІХІ АКІЯН

Краіны Цэнтральнай Амерыкі шырока святкуюць амаль не заўважаную на старым кантыненце дату. 500 гадоў таму, 1 верасня 1513 года, еўрапейцы ўпершыню пабачылі Ціхі Акіян. Першым яго пабачыў іспанскі канкістадор Нуньез дэ Бальбоа, кіраўнік экспедыцыі, якая 25 дзён даследавала прасторы Панамы. Дарэчы, менавіта Панама арганізавала вялікае свята з нагоды юбілею. Па словах удзельнікаў урачыстасцяў, выхад у Ціхі Акіян значыў стварэнне комплекснага погляду еўрапейцаў на свет. Выступоўцы таксама падкрэслівалі, што Бальбоа фактычна праклаў маршрут будучага Панамскага каналу, які амаль праз 400 гадоў, у 1914-м, аб'яднаў Ціхі і Атлантычны акіяны. Дата 1 верасня 1513 года павінна быць прапісаная ва ўсіх падручніках сусветнай гісторыі. Некаторыя гісторыкі кажуць, што гэта другая пасля дня адкрыцця Амерыкі падзея ў кантынентальнай гісторыі. Такой думкі, натуральна, не прытрымоўваюцца тутэйшыя індзейцы, якія лічаць паход Бальбоа пралогам знішчэння сваёй цывілізацыі.

**Паводле іспанскай прэсы**

### РАСІЯ. НАБЛІЖАЕЦЦА АРХЕАЛАГІЧНАЯ ВАЙНА

Руская прэса сцвярджае, што ў Татарстане рыхтуюцца да знішчэння вялікай партыі артэфактаў. Іх, быццам, знайшлі падчас раскопак на месцы, дзе калісьці знаходзіўся горад Булгар — сталіца Волжскай Булгарыі. Даследаванні ў гэтым месцы працягваюцца даўно, а іх куратарам ёсць асабіста былы прэзідэнт Татарстану Шаймiеў. Справа ў тым, што горад Булгар для прадстаўнікоў мясцовай эліты мае калясальнае ідэалагічнае значэнне. Менавіта тут, у Булгары, паводле падання, татары прынялі іслам. Менавіта тут размяшчалася старажытная сталіца татарскага народа. Між тым, калі верыць маскоўскім выданням, падчас раскопак узнікла праблема. Археолагам, як пішуць у Маскве, пастаянна трапляюцца каменныя абразкі і крыжы, металічныя абразкі, бронзавая царкоўныя рэчы: падсвечнік, трымальнікі лампад — старажытнарускія вырабы, прычым, мяркуючы па ўсім, мясцовай вытворчасці. Гэта супярэчыць афіцыйнай татарскай гістарыяграфіі, адпаведна якой славяне прыйшлі ў Паволжа разам з Іванам Жахлівым як акупанты. Адпаведна, быццам, усе гэтыя вырабы збіраюцца знішчыць. У такую версію верыцца слаба, паколькі татарская грамадскасць не мае адзінага погляду на гісторыю. Частка гісторыкаў лічыць, што Волжская Булгарыя не мае нічога агульнага з Татарстанам. Акрамя таго, з улікам факту моцнага супраціву атрадам Івана Жахлівага ў Татарстане атрымліваецца, што ў ім таксама бралі ўдзел і мясцовыя славяне, якія, відавочна, былі супраць каланіяльнай экспансіі Масквы.

**Паводле расійскай прэсы**

ЦІКАВА

# МЯСА ПА-ЗА ЗАКОНАМ

*Алег НОВІКАЎ*

**Адной з самых гарачых тэмаў выбарчай кампаніі ў Германіі стала прапанова Зялёных забараніць раз на тыдзень продаж мяса ў пунктах грамадскага харчавання.**




Аналітыкі лічаць, што прычына гэтай кур'ёзнай з'явы звязаная з характарам цяперашняй кампаніі па выбарах у Бундэстаг. Па сутнасці, ніякай інтрыгі на гэтым этапе выбараў няма — большасць галасоў атрымаюць хрысціянскія дэмакраты пад кіраўніцтвам Ангелы Меркель. Гэта значыць, што надзеі эсдэкаў і Зялёных зрабіць рымейк 1998 года, калі яны атрымалі большасць у парламенце, з кожным днём набываюць усё ўтапічнейшыя контуры. Сацыял-дэмакраты сярод выбаршчыкаў каціруюцца ў 25 працэнтаў, а Зялёныя не збяруць ураджай больш за 15 працэнтаў.

Толькі пасля 22 верасня ад палітыкаў сапраўды можна чакаць сенсацыйных паведамленняў. Паколькі ніводная партыя па выніках галасавання не будзе мець парламенцкай большасці, узнікнуць самыя незвычайныя спекуляцыі наконт магчымага фармату кааліцыі, на базе якой павінен паўстаць будучы ўрад. Не выключана, што ружовыя і Зялёныя, насуперак антысталінскім прынцыпам, працягнуць руку чырвоным — прапануюць удзел у сумесным кабінеце экс-камуністам ГДР. Не выключана і стварэнне чорна-зялёнай кааліцыі (кансерватары плюс Зялёныя).

Паколькі займацца інсінуацыямі наконт складу будучага ўраду пакуль рана, прэса, і перш за ўсё жоўтая, шукае, чым сябе заняць. Нейкі час бульварныя газеты мусолілі пункт у праграме кансерватараў наконт неабходнасці барацьбы з англіцызмамі. У выпадку перамогі партыі Меркель, за англійскія запазычанні ў журналісцкіх тэкстах будуць жорстка караць. Прайшліся журналісты і па праграме сацыял-дэмакратаў, адзін з параграфаў якой лічыць неабходным уручаць штогод кожнаму нямецкаму школьніку за кошт дзяржавы лэп-топ. На думку шмат каго, такая рэформа яшчэ больш паглыбіць атупленне вучняў, якія і так не вылазяць з-за кампутараў.

Аднак на скандальную згаданая вышэй тэматыка яўна не цягне. А вось страшылка пра тое, што Зялёныя забароняць бюргерам есці раз на тыдзень любімыя сасіскі і шніцалі, шмат каго сапраўды шакавала. Тым больш, што некаторыя выданні ахвотна фантазіруюць на тэму складу будучых вегетарыянскіх меню. Калі ім верыць, экологі абавяжуць усіх есці амаль што пазбаўленыя смаку прэсныя салаты. Доказам, на думку правых СМІ, з'яўляецца паведамленне, якое даслала ў Twitter адзін з лідараў Зялёных Рэната Кунаст (Renate Kunast). Яна падзялілася рэцэптам салату, які, быццам, будуць прапаноўваць кліентам рэстаранаў у выпадку перамогі Зялёных.

Дзякуючы бульварным выданням, прапанова Зялёных наконт абавязковага штотыднёвага вегетарыянскага дня ва ўсіх кафэ і рэстаранах ФРГ апынулася ў топе тэмаў выбараў. Прычым гаворка не ідзе пра кулінарныя густы. Напрыклад, лібералы з Партыі свабодных дэмакратаў (FDP) кажуць пра пагрозу прыходу ў Германію зялёнага аўтарытарызму. Лідар парламенцкай фракцыі лібералаў Райнер Брудэрле знайшоў у ідэях Зялёных нават элементы планавай гаспадаркі, паколькі ідэі эколагаў супярэчаць пастулату пра тое, што ніхто не можа вырашаць за іншага, што яму спажываць.

На сайтах лібералаў з'явіўся цікавы тэрмін — «экадыктатура». На думку лібералаў, калі дапусціць сённяя Veggie Day (вегетарыянскі дзень), то заўтра Зялёныя абавязкова навяжуць грамадству новыя фішкі накшталт Bike Day (дзень абавязковай прагулкі на веласіпедзе) або Green Shirt Day (дзень абавязковага нашэння маек з экалагічнымі тэкстамі).

У якасці доказу аўтарытарных бзікаў у мясафобаў свабодныя дэмакраты ахвотна згадваюць пра тое, што дыктатар Адольф Гітлер таксама быў фанатам вегетарыянскай кухні. Гэты факт цяжка аспрэчваць. У 1942 годзе падчас нейкай прыватнай размовы Гітлер нават заявіў пра тое, што «будучыня належыць выключна вегетарыянцам».

Але спробы лібералаў скарыстацца гісторыяй дастаткова супярэчлівыя. Гітлер быў у тым ліку праціўнікам табаку і алкаголю. Аднак наўрад ці гэта можа быць аргументам для таго, каб цяпер прыбраць з пачак цыгарэт надпіс: «Курэнне забівае».

А што Зялёныя? Па іх словах, сенсацыя пра забарону мяса высмактаная з пальцу. Патрабаванне наконт Veggie Days з'явілася ў праграме Зялёных яшчэ тры гады таму. У красавіку на партыйных зборах эколагаў пункт унеслі ў выбарчую праграму, аднак толькі зараз ён выклікаў скандал. Экологі таксама нагадваюць, што 60 працэнтаў немцаў прызнаюць наяўнасць праблем з залішняй вагой, і дзень без мяса бюргерам будзе толькі на карысць. Увогуле, адзін з ініцыятараў руху Veggie Day у ФРГ быў муніцыпалітэт Гановера, у якім большасць належыць правым.

Акрамя таго, адмова ад мяса на кухнях шматлікіх рэстаранаў, па іх словах, будзе спрыяць абароне клімату. Адзін з лідараў Зялёных і адначасова руху пратэстантаў Катрын Горынг-Экардт сцвярджае, што перыядычнае ўстрыманне ад мяса пасуе хрысціянскай этыцы. Дарэчы, у 1970-я гады сацыял-дэмакратычны канцлер Гельмут Шмідт заклікаў суайчыннікаў раз на тыдзень не глядзець тэлевізар для падтрымкі псіхалагічнага здароўя.

Увогуле, розныя сацыяльныя групы немцаў па-рознаму рэагуюць на ініцыятыву эколагаў. Так, вегетарыянскія забабоны спадабаліся тым, хто практыкуе спартовы лад жыцця. Праўда, з іншага боку, Зялёныя пасля апісанай гісторыі страцілі сімпатыі занятых у мясной вытворчасці.

Таксама варта сказаць, што дэбаты вакол мяса выклікалі крытыку на адрас Германіі ў грамадскасці Грэцыі і Іспаніі — краін-ахвяраў цяперашняга крызісу. У гэтых краінаў людзі з-за эканамічных праблем адмаўляюцца ад элементарных стандартаў спажывання. А між тым, немцы мяркуюць, што ім мала мяса — абураецца мясцовая прэса.

**Дзякуючы бульварным выданням, прапанова Зялёных наконт абавязковага штотыднёвага вегетарыянскага дня ва ўсіх кафэ і рэстаранах ФРГ апынулася ў топе тэмаў выбараў. Прычым гаворка не ідзе пра кулінарныя густы**

Каментуючы скандал, палітолагі не праходзяць міма адной цікавай падзеі. Літаральна некалькі тыдняў таму выбарчы штаб хрысціянскіх дэмакратаў выпусціў незвычайную агітацыйную брашуру, прысвечаную асабістаму жыццю канцлера Меркель. Высветлілася, што Ангела — вялікі заўзятар нешта зрабіць на сваім дачным участку. Тое, што буклет пра Ангелу — аматара садавіны, пабачыў свет у разгар скандалу вакол Veggie Day, некаторыя лічаць невыпадковым. Быццам, Ангела Меркель, распавядаючы пра сваё дачнае хобі, дасылае Зялёным закадаванае запрашэнне ўвайсці ў яе будучы кабінет.

МЕРКАВАННЕ

# САБАКІНЫ ВЫБАРЫ

**8 верасня Масква абірае мэра. Пра перадвыбарчыя жарсці і шансы Аляксея Навальнага журналісту НЧ Алегу Новікаву распавядае супрацоўнік маскоўскага офісу арганізацыі «Greenpeace» Тацццяна Блатава.**




***— Выбары ў Маскве — дастаткова незвычайная падзея, паколькі яны датэрміновыя. Прычым ініцыятарам датэрміновага галасавання стаў сам мэр Сабянін. Што пра гэта гавораць людзі?***

— Ёсць шэраг версій незвычайнага кроку Сабяніна. Некаторыя кажуць, што ён вырашыў за кошт датэрміновых выбараў затрымацца на пасадзе кіраўніка мэрыі як мага больш. Выбары, з пункту гледжання логікі, лепш праводзіць зараз, паколькі ўсе чакаюць хуткага пагаршэння стану расійскай эканомікі. Ёсць думка, што выбары спатрэбіліся Сабяніну, каб задаволіць нейкія свае амбіцыі. Ну і, нарэшце, не выключаюць, што Сабяніну хочацца быць сваім у вачах масквічоў. Дасюль шмат хто трымае яго за чыноўніка — прызначэнца Пуціна. Важна адзначыць, што ў размовах цалкам адсутнічае версія пра тое, што выбары патрэбны Крамлю для ўзняцця аўтарытэту Сабяніна, каб увесці яго ў склад ураду або увогуле зрабіць прэм'ерам.

***— Што можна сказаць пра Сабяніна-мэра?***

— Вопыт двухгадовай кадэнцыі Сабяніна адназначны. Увогуле, найбольш гучная рэформа Сабяніна — гэта ліквідацыя вулічных камерцыйных кіёскаў. Некаторым гэта падабаецца, паколькі тыя кіёскі былі крыніцай антысанітарыі. Адназначна пазітыўна ацэньваюць увядзенне спецыяльных палосаў на дарогах для грамадскага транспарту і стварэнне на ўскраінах спецыяльных «накапіцеляў» для машын з рэгіёнаў. Такім чынам людзі пакідаюць свае аўто і едуць далей на метро. У спісе негатыўных учынкаў — змена юрыдычнага статусу прыродных зон. Цяпер у іх дазваляюць будаваць медычныя і нават прамысловыя аб'екты.

***— Наколькі Сабянін стаў сваім для масквічоў? Ці прысутнічае настальгія за часамі Лужкова?***

— Сабянін застаецца чужым. Ён сам не тутэйшы, і да таго ж ён тыповы чыноўнік. Лужкоў, пры ўсіх яго недахопах, быў больш эмацыйны і меў нейкія выразныя асабістыя слабасці. Ён аказваў вялікую дапамогу дзіцячым дамам. Пры Сабяніне гэтая сфера перастала карыстацца такой вялікай падтрымкай з боку мэрыі. Увогуле, лепшай ілюстрацыяй стаўлення масквічоў да Сабяніна стала мянушка, якую яму далі ў народзе. За вочы Сабяніна называюць Сабакін. Але, як і Лужкоў, Сабянін намагаецца стварыць асабісты клан за кошт прыцягнення сваіх людзей з рэгіёнаў, дзе ён раней працаваў. Так, манапольнае права на будаўніцтва метро атрымаў Хуснулін, які раней будаваў метрапалітэн у Казані.

***— Якія тэмы найбольш турбуюць жыхароў сталіцы на гэтых выбарах? Ці ёсць у гэтым спісе праблемы матэрыяльнага характару?***

> За вочы Сабяніна называюць Сабакін. Але, як і Лужкоў, Сабянін намагаецца стварыць асабісты клан за кошт прыцягнення сваіх людзей з рэгіёнаў, дзе ён раней працаваў

— Мне падаецца, што эканамічная праблема — не вельмі вострая для большасці выбаршчыкаў. Дастаткова высокія заробкі — каля 1250 долараў ЗША ў сярэднім — дазваляюць тым, хто не мае жылля ў Маскве, адчуваць сябе някепска нават у час крызісу. Куды больш людзей турбуе праблема эміграцыі. Магчыма, гэта падаецца смешным, аднак яшчэ адна з самых вострых выбарчых тэмаў — праблема рэагентаў, якімі пасыпаюць тратуары ў час галалёду. Мэрыю ўвесь час абвінавачваць у псаванні абутку.

***— Чаму праблема эміграцыі стала найбольш гарачай? Маскву даўно цяжка ўявіць без выхадцаў з Каўказу і Сярэдняй Азіі.***

— Мяркую, што прычынай сталі змены ў калектыўных паводзінах эмігрантаў з Таджыкістану і Узбекістану. Раней яны, хаця і не намагаліся інтэгравацца, аднак паводзілі сябе дастаткова мірна. Цяпер сярод маладых таджыкаў узнікла мода на хуліганскі стыль. Праблема ў тым, што, у адрозненне ад каўказцаў, гэтых хуліганаў цікавіць самы малы гешэфт. Напрыклад, стаў звычайнай з'явай крадзеж аўтамабільных знакаў з машын, якія стаяць у двары. Пасля злодзеі «прабіваюць» тэлефон ахвяры і прапануюць за тысячу рублёў (каля 4 долараў) вярнуць нумар. Паколькі аднаўляць нумары праз ДАІ патрабуе шмат часу, уладальнік аўто звычайна пагаджаецца на шантаж. Тысяча рублёў — проста смешная сума для жыхара Масквы, аднак эмігранты з-за беднасці гатовыя на ўсё. Пры гэтым усе ведаюць, што кожная нелегальная азіяцкая сям'я так ці інакш жыве дзякуючы хабарам чыноўнікам.

***— Ці маюць месца на маскоўскіх выбарах фальсіфікацыі?***

— Мне цяжка дакладна казаць пра маштаб фальсіфікацый, аднак складана ўзгадаць, калі апошні раз выбары абыходзіліся без скандалаў з каруселлю (галасаванне па талонах) або з укідваннем бюлетэняў. Праўда, гэтыя выбары могуць быць выключэннем. Як я ўжо казала, Сабяніну патрэбна чыстая перамога, каб ніхто нават не меў сумневу ў тым, што ён пераможаць. Магчыма, менавіта таму ён патрабаваў, каб Навальны прыняў удзел у выбарах.

***— Як выбаршчыкі ацанілі тое, што Навальнага выпусцілі з турмы і далі магчымасць праводзіць кампанію?***

— Прынамсі, для нас, юрыстаў, гэта быў шок. Такіх выпадкаў у Расіі практычна не было. Гэта адразу насцярожыла шмат каго з дэмактывістаў. Тым больш, што па сутнасці Навальны не агучвае актуальныя лакальныя праблемы. З грамадзянскімі ініцыятывамі на месцах у нас працуюць партыя «Яблоко» і камуністы. Аднак кампаніі іх кандыдатаў не такія заўважныя з-за скандалу вакол Навальнага.

***— Ты кажаш пра тое, што кампанія праходзіць вельмі празрыста. Ці значыць гэта, што дзеючы мэр перакананы ў тым, што пераможа? У чым жа ў такім выпадку інтрыга выбараў 8 верасня?***

— Паводле апытанняў, мэр — безумоўны фаварыт. Гэта не дзіўна, паколькі за Сабяніным стаяць адміністратыўны рэсурс і армія пенсіянераў, якім вельмі падабаецца кампанія Сабяніна па навядзенні чысціні на вуліцах. У гэтым плане галоўная інтрыга выбараў — колькі працэнтаў змож атрымаць Навальны. Калі ў яго будзе менш за 10–12 працэнтаў, гэта — фіяска, якое Навальнаму будзе проста цяжка растлумачыць. Калі за Навальнага прагаласуюць каля 20 працэнтаў — гэта будзе значыць ідавочны крызіс лідараў старой апазіцыі і пачатак стварэння новага антыпуцінскага полюсу пад кіраўніцтвам Навальнага.

Праўда, не зразумела, як у такім выпадку сам Навальны будзе вырашаць праблему прысуду па справе «Кировлеса». Касацыйны суд, у якім Навальны аспрэчыў прысуд, можа ў лепшым выпадку спісаць яму год з пяці. Калі ён цалкам амністуе Навальнага, гэта выкліча яшчэ больш плётак пра тое, што ён або чалавек Крамля, або фігура ў невядомай пуцінскай шматхадоўцы.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### КРЫСЦІНА ШУМІЛАС



Міністэрства народнай асветы Польшчы, якім кіруе спадарыня Шумілас, прыняло рашэнне аб рэформе школьнай праграмы па вывучэнні польскай літаратуры. У тым ліку вырашана, што ў гімназіях (сярэднія школы) больш не будуць вывучаць паэму Міцкевіча «Пан Тадэвуш» і славутую трылогію Генрыха Сянкевіча (раманы «Патоп», «Агнём і мячом» і «Пан Валадыёўскі»). З гэтымі творамі дзеці будуць знаёміцца ў ліцэях — гуманітарных адукацыйных установах для старэйшых вучняў. Такім чынам, навучэнцы тэхнічных школ (іх, дарэчы, у Польшчы большасць) пра прыгоды пана Валадыёўскага не даведаюцца. Нічога дзіўнага, што змены ў падручніках раззлавалі правы палітыкум. Правыя пабачылі ў рашэннях Мінадукацыі ледзь не бомбу, закладзеную пад фармаванне духу польскасці сярод моладзі. «Гэтая палітычная група, якая кіруе «Грамадзянскай платформай» (урадавая партыя ў Польшчы), трымаецца вельмі прымітыўных поглядаў на сучаснасць. Яны думаюць, чым менш польскасці, тым лепш нам будзе ў Еўропе», — піша правая прэса. Па словах аднаго з лідараў кансерватыўнай партыі «Права і Справядлівасць» (PiS), рэформа задуманая для таго, каб прасунуць у школьную праграму па літаратуры розных авангардыстаў, нахшталт пісьменніка Гамбровіча, які ў сваіх творах высмейваў польскія патрыятычныя забабоны. На яго думку, пастанова пані Шумілас не спадабаецца шматлікім бацькам і павялічыць рэйтынг PiS як мінімум на тры працэнты.

### ВАДЗІМ КАЛЕСНІЧЭНКА



Дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны ад Севастопаля, сябра Партыі рэгіёнаў, Калеснічэнка, верагодна, узначаліў унутрыпартыйную фракцыю, якая выступае супраць праеўрапейскага вектару Украіны. Ён ужо паспеў зарэгістраваць законапраект аб далучэнні Украіны да Мытнага саюза. Сярод іншага, неабходнасць змены геапалітычнага курсу ён тлумачыць тым, што ўкраінскія геі ў выпадку еўраінтэграцыі могуць атрымаць больш правоў. Дэпутат таксама заявіў пра намер выйсці з партыі ў выпадку, калі Украіна падпіша дамову пра асацыяцыю з Еўрасаюзам. У выпадку такога сцэнару развіцця падзей, Вадзім абяцае стварыць нават сваю партыю. Пакуль што фронду Калеснічэнкі кіраўніцтва Партыі рэгіёнаў каментуе спакойна. Прынамсі, фракцыйную дысцыпліну ён захоўвае. Аднак праблема таго, як будзе паводзіць сябе прарасійскі электарат, які галасаваў за Партыю рэгіёнаў, пасля дамовы пра асацыяцыю з ЕС, сапраўды становіцца вельмі актуальнай. Таму не выключана, што рабіць гучныя антыеўрапейскія заявы Вадзім пачаў па патрабаванні Януковіча, які хоча стварыць фантомную падпарадкаваную Партыі рэгіёнаў рускамоўную партыю.

### ПЕЕР ШТАЙНБРУК

Кандыдат сацыял-дэмакратычнай партыі Германіі на пасаду канцлера на вераснёўскіх парламенцкіх выбарах, на думку большасці назіральнікаў і гледачоў, перамог Ангелу Меркель у тэледуэлі, якая адбылася 1 верасня. Ён выглядаў больш чалавечна, іранізаваў, больш дакладна і лагічна раскрываў тэмы, паводзіў сябе вельмі карэктна, калі крытыкаваў суперніка. Перамога Пеера выклікала прыступ эйфарыі і надзеі сярод тых, хто верыць, што эсдэкі і іх саюзнікі Зялёныя будуць здольныя сфармаваць урад. А сацыял-дэмакраты нават заявілі, што ў кампаніі адбыўся паварот (раней рэйтынг Штайнбрука толькі падаў). Сапраўды, часу да выбараў (яны адбудуцца 22 верасня), яшчэ хапае. У дадатак 19 працэнтаў выбаршчыкаў яшчэ не вызначыліся, за каго галасаваць, што патэнцыйна дае эсдэкам шанец скараціць разрыў з кансерватарамі (у партыі Меркель напярэдадні дуэлі было 40 працэнтаў, а ў сацыял-дэмакратаў — 23). Між тым, 4 верасня агенцтва «Forsa» апублікавала свежыя дадзеныя. Паводле іх, перамога Штайнбрука на дуэлі ніяк не паўплывала на агульныя трэнды. Рэйтынг яго партыі па-ранейшаму не выходзіць за ўзровень 25 працэнтаў. Затое чамусьці дэбаты выклікалі інтарэс да партыі еўраскептыкаў «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD). Папулярнасць AfD праз дзень пасля тэледуэлі вырасла з 3 да 4 працэнтаў (прахадны бал у парламент складае 5 працэнтаў).



СПАДЧЫНА

# ЛЯВОН САВЁНАК — ПСЕЎДАНІМ

Лявон ЮРЭВІЧ

**У 1930–1931 гадах чарговым этапам вынішчэння беларускага народу стаўся разгром, што ўвайшоў у гісторыю як «Справа Беларускага нацыянальнага цэнтру». Да 1 лістапада па справе БНЦ было арыштавана 9 700 чалавек, у тым ліку і Лявон Савёнак.**



Лявон Савёнак з калегамі ў рэдакцыі

Нарадзіўся Лявон Савёнак 26 чэрвеня 1897 года на Глыбоччыне ў вёсцы Вялец у сям'і Вікенція (1865–1898) і Вольгі (1869–1962) Савёнкаў. Пачатковую асвету здабыў у Глыбокім, куды пераехаў разам з маці і старэйшымі сёстрамі, Анютай і Ксеняй, пасля смерці бацькі вучыўся ў Маладзечанскай настаўніцкай семінарыі, якую скончыў у 1917 годзе. Тут разам з ім студыявалі такія знаныя дзеячы беларускага нацыянальнага руху, як Сымон Рак-Міхайлоўскі, Пётра Мятла, Флягонт Валынец, Міхась Чарот. Пасля семінарыі два гады вучыўся ў кадэцкім корпусе ў Пецярбургу.

На пачатку першай беларусізацыі, у 1922 годзе, Лявон Савёнак з групай глыбоцкіх настаўнікаў прыехаў у Мінск, дзе пазнаёміўся з настаўніцай Апалоніяй Радкевіч, якая сталася ягонай жонкай. У іх нарадзіўся сын Лёдзік, а праз 5 год — дачка Зора. Сям'я засталася жыць у Мінску.

У хуткім часе Усевалад Ігнатоўскі паклікаў Савёнка працаваць карэспандэнтам у газету «Савецкая Беларусь», што тады друкавалася па-беларуску. Савёнак многа ездзіў па Беларусі, пісаў рэпартажы і фельетоны.

## Пра аўтара:

Лявон Юрэвіч — архівіст, даследчык гісторыі і культуры эміграцыі. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Мінску. Ад 1993 года жыве ў ЗША. Працуе ў Нью-ёрскай публічнай бібліятэцы. Сябра Беларускага інстытута навукі і мастацтва, а таксама рэдакцыйнай калегіі часопісу «Запісы БІНІМ». Аўтар і ўкладальнік кніг, прысвечаных беларускай эміграцыі.

У склад рэдакцыі таксама ўваходзілі М. Маразоўскі (Гурын), рэдактар, постаці якога не адну старонку ва «Успамінах» прысвеціць праз гады Васіль Рагуля, Змітрок Бядуля, Міхась Чарот, Янка Пашкевіч, Павал Каравайчык. Алесь Дудар у сваіх паказаннях па сфабрыкаванай справе «Саюзу вызвалення Беларусі» расказваў пра атмасферу ў газеце, што яна «мала падобна была да атмасферы савецкай газеты. Адчувалася, што большасць супрацоўнікаў аддае сваю працоўную сілу і гэтым абмяжоўваецца: погляды ж свае разглядае як нешта асобнае, незалежнае ад той справы і ад тых прынцыпаў, якія праводзіла газета. Праўда, ніякіх антыпартыйных і антысавецкіх гутарак не было, але адчувалася і само сабой разумелася, што партыя сама па сабе, а «Савецкая Беларусь» сама па сабе». І як вынік — 27 чэрвеня 1929 года на пасяджэнні бюро ЦК КП(б)Б У. Затонскі, які ўзначальваў камісію па праверцы нацыянальнай работы ў БССР, абвінавачваў газету ў нацыянал-дэмакратычных скажэннях. На старонках гэтай газеты, пазней названай «утульным прыстанішчам беларускіх нацыяналістаў», друкаваўся артыкул Паўла Трамповіча «Шляхі беларускай інтэлігенцыі», артыкулы Міхася Зарэцкага і Тодара Глыбоцкага, што распачалі «тэатральную дыскусію», а таксама вядомы «Ліст 3-х» (Андрэя Александровіча, Алеся Дудара, Міхася Зарэцкага) пра антыбеларусізацыю.

Не дзіва, што Савёнак быў звольнены з працы як нацдэм. З лютага 1929 года ён працаваў на будоўлі, на заводзе «Ударнік», з ліпеня 1932-га — стыльрэдактарам навукова-тэхнічнага выдавецтва. Але гэта не змяніла ані ягоных поглядаў, ані паводзінаў. Нават больш. Як пісаў сакрэтны супрацоўнік ГПУ ў сваім чарговым даносе: «Такія заядлыя беларускія культурнікі, як Чаржынскі, Бялькевіч, Пашковіч, Савёнак, Каханоўскі і шмат хто іншы, хто раней у штодзённым прыватным і грамадскім жыцці гаварыў выключна па-беларуску, пачалі з усмешачкай утрыравана гаварыць па-руску, дадаючы: няхай ужо іншыя гавораць на нацыянал-дэмакратычнай мове, а мы будзем гаварыць на інтэрнацыянальнай».

Зразумела, што новых рэпрэсій доўга чакаць не трэба было.

У 1930–1931 гадах чарговым этапам вынішчэння беларускага народу стаўся разгром, што ўвайшоў у гісторыю як «Справа Беларускага нацыянальнага цэнтру». Да 1 лістапада па справе БНЦ было арыштавана 9700 чалавек, у тым ліку і Лявон Савёнак. 15 студзеня 1934 года Калегія ГПУ вынесла прысуд: зняволенне ў лагерах.

Калі б не гэтым разам, дык іншым Савёнак абавязкова трапіў бы ў кіпцюры ГПУ, якое даўно мела свае віды на аўтара кніжкі фельетонаў «Чароўная іголка». Аўтар прыкрыўся імем Лявона Свэна — яшчэ адным псеўданімам, але гэта падманула хіба толькі бібліятэчных супрацоўнікаў, якія каталагізавалі кніжку як належную замежнаму, шведскаму пісьменніку. Дакладней, пачалі каталагізаваць, бо хутка агледзеліся пільныя супрацоўнікі органаў, кнігу забаранілі і знішчылі бадай што ўвесь наклад, а ён быў немалы — тры тысячы асобнікаў.



Лявон Савёнак

Пяцігадовую высылку Лявон Савёнак адбываў спачатку ў Паўднёвай Сібіры, а потым у Алтайскім Краі. Працаваў на будоўлях, дзе цесна сышоўся з сіяністамі з Мінску, якіх было даволі шмат, моцна згрупаваных, з добрымі кантактамі, як казалі, ажно ў Швейцарыі. Яны добра паставіліся да беларускага нацыяналіста і прапанавалі нават сваю дапамогу, сувязі. Лявон Савёнак пачаў аб'ядноўваць вакол сябе беларусаў, але нехта данёс — і сіяністаў раскідалі па розных лагерах, а самога Савёнка перавялі ў штрафныя калоны.

У 1939 годзе, калі тэрмін пакарання скончыўся, Савёнак вярнуўся ў Беларусь і настаўнічаў у вёсцы каля Крычава, а пасля ў ваколіцах Мінску, бо ў самім горадзе жыць яму было забаронена.

Улетку 1941-га, пасля акупацыі Мінску немцамі, Савёнак быў інтэрнаваны, як і ўсё мужчынскае насельніцтва гораду, і некалькі тыдняў праседзеў на Камароўскіх балотах. А калі пачалася «другая беларусізацыя», працаваў журналістам у «Беларускай газеце». Менавіта на яе старонках друкаваўся найбольш вядомы твор Савёнка «Дзённік Ів.Ів. Чужанінава» — сатырычнае адлюстраванне жыцця шарагавага беларуса пад акупацыяй. Твор гэты крытыкі ставяць у адзін шэраг з «Запіскамі Самсона Самасуя» Мрыя.

Напрыканцы сакавіка 1944-га кіраўніком рэпертуарнай секцыі Беларускага культурнага згуртавання Янкам Ліманоўскім было прынята рашэнне ажыццявіць пастаноўку камічнай оперы «Тарас на Парнасе», і ён запрасіў Лявона Савёнка напісаць лібрэта. Той ужо пачаў накідваць тэкст, характарыстыку сцэнічных вобразаў, але не хапіла часу. Апошні запіс у сшытку напрацовак — горкі: «Калі на «Узвышша» ўсходзілі 5 месяцаў, дык на Парнас пры такіх тэмпах можна залезці за тры гады». Сапраўды, часопіс «Узвышша», які меліся аднавіць, быў цалкам гатовы да друку, але свету не пабачыў, адбіты быў толькі няпоўны сігнальны экземпляр. Не ўбачыла свету і опера «Тарас на Парнасе».

Герой самага вялікага твора Савёнка, Іван Іванавіч Чужанінаў, піша дзённік на працягу году, а вось сам аўтар, на жаль, ніякіх запісаў не вёў — так, зрэдзьчасу пакідаў радок-другі ў сшытку, да якога потым ніколі не вяртаўся. І ўсё ж:

«28.06. Ноч у БЦР. На Паўночным вакзале. Ноч на таварнай.

29.06. Бамбардавалі. Правадыры ў кусты. «Герой», які напачатку хадзіў з аўтаматам, паваліўся зь перапугу ў яму з глінай. Выйшаў пад раніцу, як зэбра.

— Навесілі!

— На нас?

— На нас.

30.06. Стоўбцы. Трывога. Паэта (або пісьменьнік) ліе горкія сьлёзы (ладна выпіўшы) — толькі паэта можа зразумець гэта. Можа глядзімо на гэта апошні раз».

Развітанне сапраўды было назаўсёды. Пачалася эміграцыя, а з ёй — чарговы, «новы этап беларусізацыі», які, што праўда, у нашай гісторыі яшчэ не атрымаў свайго «парадкавага нумару».

У Нямеччыне Савёнак апынуўся спачатку ў беларускім лагеры DP Міхельсдорф, а потым у DP Остэргофен, заснаваным зімой 1947 года. Прытулак у ім знайшлі больш за 400 беларусаў. Дзякуючы Станіславу Станкевічу, Антону Адамовічу, Міколу Равенскаму ды Апалоніі і Лявону Савёнкам, гэты лагер стаўся адным з цэнтраў беларускай эміграцыі ў Нямеччыне. Тут пачала выдавацца газета «Бацькаўшчына» (першы нумар выйшаў 31 кастрычніка 1947 года), якая адыграла выключную ролю на эміграцыі: тут працавала драматычная студыя пад кіраўніцтвам Аўгена Кавалеўскага; тут выдаваўся часопіс «Рух», была сядзіба Беларускага нацыянальнага цэнтру (БНЦ).

У 1947-м у лагеры быў выдадзены першы нумар часопіса «Сакавік», не ў апошнюю чаргу дзякуючы Лявону Савёнку. Менавіта ў яго захоўваўся поўны варыянт (у адрозненне ад выдрукаванага Язэпам Лёсікам у 1920 годзе ў газеце «Беларусь») гістарычнай драмы Каруся Каганца «Сын Даніла». Антон Адамовіч, даведаўшыся, што ў Савёнка ёсць драма Каруся Каганца, загарэўся жаданнем яе выдрукаваць. Так паўстала ідэя новага часопіса. У ім, акрамя навелы В. Бірыча (Антона Адамовіча) «Афрадыта-Ост», вершаў Рыгора Крушыны, Наталлі Арсенневай, Масея Сяднёва, быў змешчаны і пачатак «Дзённіка Чужанінава», які атрымаў новую назву — «Запіскі эмігранта». Выглядае на тое, што аўтар збіраўся не толькі перадрукаваць «Дзённік» з «Беларускай газеты», але і працягнуць жыццяпіс героя ў лагерах DP. На вялікі жаль, публікацыя не была скончаная, і працяг «Дзённіка Чужанінава» не ажыццявіўся.

У лагеры Остэргофен Лявон Савёнак працаваў дырэктарам Беларускай гімназіі, якая адчынілася 24 лютага 1947 года. Разам з ім, выкладчыкам матэматыкі, настаўнічалі Антон Адамовіч (гісторыя), Мікола Кунцэвіч (лацінская і замежная мовы), Пётра Манькоўскі (англійская мова), Мікола Равенскі (спевы), Апалонія Савёнак (родная мова і літаратура), Зінаіда Станкевіч (прыродаведа і фізіка) ды іншыя. Лявон Савёнак выкладаў таксама на адукацыйных курсах для дарослых.

З лагеру Остэргофен Савёнкі пераехалі ў Розенгайм, дзе і ён, і ягоная жонка Апалонія працягвалі выкладаць у гімназіі. Савёнак часта ездзіў у Мюнхен, дзе інтэнсіфікавалася палітычнае жыццё антыкамуністычнай эміграцыі з СССР. Навязаў цеснае супрацоўніцтва з украінскай газетай «Українські Вісті» і рэдактарам Іванам Баграным.

4–5 чэрвеня 1948 года ў горадзе Канстанцы (Французская зона) адбыўся з'езд праваслаўных беларусаў, да правядзення якога прыклаў немалыя намаганні і Лявон Савёнак, і сам быў сярод ягоных удзельнікаў. Гэты з'езд стаўся вырашальным у адраджэнні Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

У ЗША Лявон Савёнак пераехаў у 1950 годзе. Гэта быў час, калі ў Радзе БНР, сябрам якой ён быў ад 1947-га, адбыўся раскол (1952–1954 гады). Прычынай расколу было стаўленне да палітыкі «Амерыканскага камітэту вызвалення ад бальшавізму» (першапачатковая назва — «Камітэт вызвалення народаў Расіі»). Справа ў тым, што з пачаткам «халоднай вайны» ў Вашынгтоне паўсталі як бы дзве плыні — два погляды на дачыненні з СССР. Пентагон уважаў, што ў тагачасных умовах адзінай гарантыяй міру можа быць нарошчванне ўзбраення. Палітыкі з Кангрэсу лічылі, што

# КРЫВІЧАНІН

прапаганда, вывучэнне СССР маюць не меншае значэнне.

У выніку іх актыўнай дзейнасці паўстаў Інстытут вывучэння гісторыі і культуры СССР, радыё «Вызваленне» (пазнейшая «Свабода»). Афіцыйна амерыканскі ўрад заявіў: ён змагаецца з камунізмам у СССР і ў гэтай барацьбе падтрымоўвае ўсе народы — беларусаў, летувісаў, украінцаў. Але ён не вырашае далейшы лёс земляў, што знаходзяцца зараз пад расійскай акупацыяй. На бок гэтай афіцыйнай палітыкі, палітыкі так званага «непрадрашэнства», стала частка сяброў Рады БНР разам з прэзідэнтам Міколам Абрамчыкам. Яны прытрымліваліся думкі, што сёння неабходна максімальна атрымаць дапамогу ад афіцыйнага Вашынгтону, а ўжо потым уздымаць пытанне пра незалежнасць Беларусі.

Другая, даволі значная частка сяброў Рады БНР, не пагадзілася з гэтым і стварыла фракцыю «Асцярожнага супрацоўніцтва з Амерыканскім камітэтам», у якую ўваходзіў і Лявон Савёнак. Гэтая фракцыя заявіла, што незалежнасць Беларусі была абвешчана яшчэ ў 1918 годзе, і на пазіцыях непрадрашэнства Рада БНР з «Амерыканскім камітэтам вызвалення ад бальшавізму» супрацоўнічаць не можа. Быў створаны механізм для перавыбараў Прэзідыуму і прэзідэнта. Старшынёй камісіі па падрыхтоўцы рэферэндуму быў абраны Лявон Савёнак.

Перамагла група Міколы Абрамчыка. Тыя сябры Рады, што не пагадзіліся з палітыкай «непрадрашэнства», паступова адышлі ад актыўнай палітычнай дзейнасці ў Прэзідыуме, а Аўген Каханоўскі нават выйшаў з Рады.

Палітычная і грамадска-культурніцкая дзейнасць Лявона Савёнка на эміграцыі — тэма асобнай, грунтоўнай размовы: адзін з ініцыятараў стварэння Камітэту незалежнай Беларусі (разам з Лявонам Галяком, Юрыем Сабалеўскім, Анатолем Плескачэўскім), сябра Цэнтральнага камітэту Аб'яднання беларускіх нацыянал-дэмакратаў (старшыня Аўген Каханоўскі), рэдагаваў газету «Беларус», уваходзіў у дарадную камісію па перакладу Бібліі, які ажыццяўлялі Янка Станкевіч ды пастар Масей Гітлін. Як журналіст, што добра ведаў савецкую прэсу, апрацоўваў манаграфію аб прэсе БССР (на жаль, яна не захавалася), а таксама даваў шмат інфармацыі ў заходнія даведнікі аб падсавецкім друку на Беларусі (La Presse Derrièrele Ridean de Fer. Paris, 1948; The Free Press of the Supressed Nations. Augusburg, 1950).

Памёр Лявон Савёнак 21 лютага 1974 года. Пахаваны на беларускіх могілках у Іст-Брансвіку.


Запіскі эмігранта.
Ад рэдакцыі. „Запіскі Эмігранта", якія мы пачынаем друкаваць, надысланы да рэдакцыі праз ветлівасьць аднаго з нашых сымпатыкаў. У прыкладзенай да „Запісак" нататцы зацемлена, што „Запіскі" знойдзены выпадкова, пасьля расьцярушаньня аднаго з лягераў так званых „Д.П." Імя аўтара і ягонае цяперашняе месца пражываньня не ўсталена. Наш сымпатык прыпушчае, што аўтар Запісак — бяздомны, расейска

Старонка з рукапісу Лявона Савёнка

ПАДРАБЯЗНАСЦІ

# ЯК СВЯТА РОДНАГА СЛОВА ГАСЦЯВАЛА Ў БЫХАВЕ

Анатоль МЯЛЬГУЙ

**1 верасня ў Быхаве адбылося XX Свята беларускага пісьменства і друку. Для ўдзелу ў гэтай важнай культурніцкай падзеі многія прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі рана-раненька выправіліся са сталіцы ў гэты горад з мэтай паўдзельнічаць у вялікім аглядзе літаратурнай і выдавецкай дзейнасці дзяржаўных структур, якія па свайму статусу павінны спрыяць развіццю Роднага Слова.**


Фота Анатоля Мяльгуя
Канцэрт званоў Беларускай праваслаўнай царквы

Праграма свята абяцала шмат літаратурных цікавостак, прэзентацый і сюрпрызаў. Асабліва звязаных з рэстаўрацыяй легендарнага Быхаўскага замка. З добрымі надзеямі сталічны «інтэлігенцкі» картэж выправіўся на магілёўскую зямлю.

Памятаю, пасля правядзення Свята беларускага пісьменства ў Ганцавічах даводзілася канстатаваць, што для раённых цэнтраў і іх наваколляў такія мерапрыемствы становяцца, бадай, адзіным сведчаннем таго, што наша дзяржава клапоціцца пра беларускасць як у моўным, так і ў гістарычна-этнаграфічным плане. І тое, што насельніцтва гэтых невялікіх гарадкоў з энтузіязмам успамінае пра сваё нацыянальнае паходжанне, пра багатую гісторыю краіны і сваёй малой радзімы, не заставалася па-за ўвагай ні ўдзельнікаў святкавання, ні мясцовых уладаў.


Быхаўскі замак. Сучасны выгляд

Мо таму гэты энтузіязм людзей, якія хоць на дзень акуналіся ў нацыянальную — найперш, беларускамоўную — стыхію Свята, як мне здаецца, было вырашана пераарыентаваць яшчэ і на дасягненне ідэалагічных мэтаў. У выпадку Быхава — увязаць мясцовыя праявы беларускасці з дзяржаўнай палітыкай «двухмоўя», яе клопатам пра гістарычную спадчыну на фоне дзяржаўных сімвалаў і, чамусьці, сімвалаў Расійскай Федэрацыі. Мо таму ў выступленнях прадстаўнікоў мясцовых і сталічных уладаў панавала ў асноўным мова суседняй дзяржавы.

Трэба адзначыць, што афіцыйная частка святкавання прадстаўляла сабой традыцыйны набор прамоў-віншаванняў, успамінаў пра спадчыну вялікіх землякоўдрукароў Пятра Мсціслаўца, Спірыдона Собаля, творчасці Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Івана Чыгрынава, Аркадзя Куляшова, як «падмурка развіцця сучаснай літаратуры і мастацтва»,


Па слядах першадрукара Скарыны


Паэт Я. Гучок і пісьменнік У. Ліпскі абмяркоўваюць новыя выданні

тэатралізаванай дзеі, цырымоніі ўзнагароджвання пісьменнікаў — пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор.

Больш разнастайныя падзеі Свята беларускага пісьменства і друку адбываліся на іншых пляцоўках старажытнага Быхава, куды мы і выправіліся, каб не прапусціць цікавыя моманты свята. Першым пунктам нашага падарожжа па горадзе стаў старажытны Быхаўскі замак, які быў пабудаваны на гарадскім узвышшы Янам Каралем Хадкевічам у XV стагоддзі. Сённяшні стан замка ацаніць цяжка, бо ўсе замкавыя муры былі закрыты рэстаўрацыйна-ахоўнымі завесамі. Але ўжо цяпер адрэстаўраваныя дзве замкавыя вежы, у адной з якіх размясціліся першыя археалагічныя экспазіцыі.

Сярод цікавых экспанатаў увагу наведвальнікаў прыцягвалі калекцыі дробных манет, якія былі знойдзены на тэрыторыі замка, а таксама прадметаў побыту, узораў замкавай кафлі, узбраенняў. А таксама кельма, якую ў XVII стагоддзі ўмураваў у сцяну замка невядомы быхаўскі муляр. Надзея на тое, былая веліч Быхаўскага замка калісьці адродзіцца, была падмацавана тым, што фінансаванне рэстаўрацыі быхаўскай фартэцыі ўнесена ў дзяржаўную праграму «Замкі Беларусі».

Але і ў гэтакім выглядзе Быхаўскі замак быў добрай пляцоўкай для спаборніцтваў прадстаўнікоў беларускіх і расійскіх рыцарскіх клубаў, для знаёмства быхаўчан з побытам і баявымі прыёмамі вояроў ВКЛ. Яшчэ адна археалагічная згадка пра мужных рыцараў Вялікага княства чакала наведвальнікаў свята сярод стэндаў, прысвечаных гарадам, якія раней прымалі Свята беларускага пісьменства. Так, на стэндзе, які распавядаў пра Магілёў і Магілёўшчыну, была выстаўлена ўнікальная знаходка апошніх часоў з берага ракі Віхра — камплект рыцарскага ўзбраення рыцара ВКЛ канца XV стагоддзя: стальны панцыр, шлем і фрагменты лат. Каб гэтыя артэфакты не згубіць да прафесійнай рэстаўрацыі, то яны былі змешчаны ў акварыум з рачной вадой.

Падчас правядзення навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай святу, адбылася прэзентацыя навуковага выдання «Баркулабаўскі летапіс», а таксама адкрыццё адналменнай скульптурнай кампазіцыі І. Арцымовіча. Дарэчы, у быхаўчан ужо склалася традыцыя дакрануцца і памаліцца ля вобраза Баркулабаўскай Божай Маці, якая ўпрыгожвае гэтую кампазіцыю. Гараджане вераць, што вобраз дае здароўе, прыносіць дабрабыт і шчасце.

Адным з цэнтраў святкавання Дня беларускага пісьменства і друку стала драўляная Траецкая царква XIX стагоддзя. На яе тэрыторыі сваё майстэрства для прыхаджан і гасцей горада дэманстравалі ўдзельнікі ансамбля званароў Беларускай праваслаўнай царквы, якія распавядалі пра адрозненні выканаўчых школ Беларусі, Расіі, Балгарыі і іншых славянскіх народаў. Там жа гучалі творы беларускіх аўтараў, царкоўная музыка ў выкананні Магілёўскай гарадской капэлы, акадэмічных хароў установаў адукацыі Магілёўскай вобласці.

Адной з асабліваслцяў свята стаў удзел у ім яўрэйскай супольнасці Быхава, якая размясціла сваю інфармацыйную экспазіцыю каля быхаўскай сінагогі, пабудаванай у XVI стагоддзі. Яе муры чакае сур'ёзная рэстаўрацыя, як і пабудовы кляштара канонікаў рэгулярных лютэранскіх і іншых архітэктурных помнікаў гэтага горада.

Так, да пачатку Свята беларускага пісьменства і друку ў Быхаве была праведзена рэканструкцыя кінатэатра «Родина», адбылося адкрыццё Быхаўскага раённага цэнтра культуры, чыгуначнай станцыі «Быхаў» і іншых установаў гарадской інфраструктуры. А вось гістарычная спадчына горада чакае сваёй рэстаўрацыі. Свята беларускага пісьменства і друку, будзем спадзявацца, дасць імпульс яе адраджэнню. І наступным разам Быхаў прадстане перад яго гасцямі як горад з сапраўды вялікай гісторыяй, у якім і жыхары, і мясцовыя ўлады з павагай ставяцца да Роднага Слова.

▸ ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

# ЗАКУЛІССЕ ГЕНЕРАЛЬНАЙ КАРТЫ БЕЛАРУСІ

**Некалькі гадоў таму выклікаў мяне да сябе Вячаслаў Насевіч, дырэктар Беларускага навукова-даследчыцкага цэнтра электроннай дакументацыі і адначасова адказны рэдактар «Вялікага гістарычнага атласа Беларусі».**

Ён прапанаваў мне стварыць да другога тома згаданага атласа Генеральную карту тэрыторыі Беларусі па звестках другой паловы XVIII стагоддзя і суправадзіць яе спісамі населеных пунктаў, землеўладальнікаў і іншай рознай інфармацыяй. Мы дамовіліся, што кампутарны набор спісаў населеных пунктаў з перакладам іх на беларускую мову і прывязкай да сучаснай адміністрацыйнай сеткі браўся рабіць сам Насевіч. Спрэчныя пытанні мы вырашылі сумесна разабраць у апошнюю чаргу.

У выніку 1 кастрычніка 2009 года я заключыў з дырэктарам Рэспубліканскага прадпрыемства «Белкартаграфія» М. А. Верзунам пісьмовую дамову пад №66 на тое, што мне аднаму даручалася «стварыць аўтарскія арыгіналы тэматычнага зместу Генеральнай карты да другога тома Вялікага гістарычнага атласа Беларусі».

Пасля гэтага я ліст за лістом аддаваў Генеральную карту ў выдавецтва разам са спісамі пасяленняў. Насевіч жа праглядаў спісы і раз-пораз прасіў унесці нейкія змены. Я заўжды пагаджаўся і рабіў пэўныя карэкцыі. 3 снежня 2009 года я здаў апошні ліст Генеральнай карты разам з прадмовай, падпісанную мной адным. В. Насевіч даў мне ўвесь мой спіс паселішчаў (гэта склала 21 560 назваў) для канчатковай праверкі. Ён месцамі ўставіў у мой першапачатковы спіс і свае паселішчы з імёнамі. Я пагаджаўся, паколькі на гэты момант Насевіч у той спіс унёс мінімальныя дапаўненні.

Як толькі я падпісаў усе лісты Генеральнай карты і дапоўнены спіс паселішчаў, так спадар Насевіч тут жа некалькі разоў у прысутнасці дырэктара выдавецтва і рэдактараў адпаведнага аддзела заявіў, што Анішчанка слаба ведае крыніцы, што ў яго, Насевіча, ёсць інвентары і ўласная крыніцазнаўчая база, якая дакладней усякага там Анішчанкі. Я пярэчыў яму тым, што ягоную віртуальную базу трэба папярэдне публікаваць, што карту трэба абапіраць не на асобныя інвентары, а на масавыя крыніцы. Я казаў у прысутнасці адказных асоб, што калі Анішчанка — «прафан», тады навошта было прасіць яго рабіць такую адказную працу. Урэшце на адным пасяджэнні Насевіч заявіў, што Анішчанка — кепскі гісторык і сварлівы чалавек, а таму такі чалавек не будзе аўтарам Генеральнай карты, і, хлопнуўшы дзвярыма, сышоў.

І вось у сярэдзіне студзеня 2012 года ў выдавецтве мне паказалі макет Генеральнай карты Беларусі другой паловы XVIII стагоддзя, дзе змест прадмовы цалкам зменены, а пад тэкстам побач з подпісам Анішчанкі стаіць і подпіс Насевіча. Ён не паведаміў мне папярэдне пра свае змены на ўсіх лістах Генеральнай карты. Больш таго, Насевіч бессаромна заяўляе, што «істотна» перарабіў першапачатковы варыянт Анішчанкі.

На старонках перапрацаванай Генеральнай карты я з вялікім здзіўленнем убачыў, што тэрыторыі Берасцейскага, Віцебскага, Менскага і Навагродскага ваяводстваў названы паветамі, а плошча Мельніцкага павета абведзена Насевічам так, быццам бы яна складала частку ВКЛ. Гэтыя дзікунскія навіны мяне так абразілі, што я адмовіўся падпісваць праўкі Насевіча. У выдавецтве мне заявілі, што карта ўжо падпісана да друку і ніякія перамены ў ёй не дапускаюцца. Вось так галоўны рэдактар выдання ўзяў чужую працу, перарабіў яе на свой капыл і запісаўся ў сатаварышы. Пры гэтым парушана не толькі афіцыйная дамова наконт аўтарскага права, але і элементарная карпаратыўная этыка ў такіх выпадках.

Суцішае мяне толькі тое, што я змагу паведаміць пра гэта галосна.

**Яўген Анішчанка,**
**кандыдат гістарычных навук**



▸ СТАРАДРУК

# БРЭСЦКАЙ БІБЛІІ — 450 ГАДОЎ

**Марат ГАРАВЫ**

**450-годдзе Біблії 4 верасня адзначылі ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа НАН Беларусі.**

Куратар выставы, загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі, кандыдат гістарычных навук Алена Цітавец распавяла, што гэты польскамоўны пераклад Святога Пісання з'яўляецца адным з найкаштоўнейшых старадрукаў, якія захоўваюцца ў фондах бібліятэкі.

Паводле яе слоў, гэтае шыкоўнае амаль дзевяцісотстаронкавае выданне са шматлікімі цудоўнымі гравюрамі нямецкага гравёра Альбрэхта Альтдорфэра — вучня вялікага Альбрэхта Дзюрэра — было здзейснена па ініцыятыве некаранаванага караля Вялікага Княства Літоўскага, канцлера ВКЛ і віленскага ваяводы Мікалая Крыштофа Радзівіла Чорнага, які не пашкадаваў 10 тысяч залатых дукатаў на наклад кнігі ў 500 паасобнікаў, што пабачыў свет у 1563 годзе ў Брэсцкай друкарні.

«Пасля смерці аўтара ідэі выдання частка кніг трапіла ў бібліятэку Віленскага евангеліцка-рэфармацкага сіноду. Сярод іх быў і асобнік, які ў 1975 годзе быў падараваны бібліятэцы ў гонар яе 50-годдзя ад калегаў з акадэмічнай бібліятэкі Літвы. Гэтае выданне з'яўляецца адным з нямногіх, што надрукаваныя ў Брэсцкай друкарні і захоўваюцца ў айчынных фондах», — сказала Цітавец. Паводле яе слоў, да нашага часу дайшлі каля 100 паасобнікаў Брэсцкай Бібліі, якія з гістарычных абставін захоўваюцца ў Расіі, Польшчы і Літве, і толькі адзін — на радзіме, у Беларусі.

Наведвальнікі бібліятэкі змогуць пабачыць гэты рарытэт са шматлікімі заўвагамі на польскай мове і з сімвалічнымі малюнкамі, адчуць прыгажосць яго мастацкага аздаблення, даведацца пра лёс фаліянту. Разам з ім выстаўлены даследаванні айчынных і замежных навукоўцаў, прысвечаныя ўнікальнаму старадруку, а таксама электроннае выданне з поўнай адлічбаванай копіяй Брэсцкай Біблії.

Вядомы даследчык гісторыі беларускіх кнігадрукаў XVI–XVIII стагоддзяў, загадчык аддзела Інстытута гісторыі НАН РБ, доктар гістарычных навук Георгій Галенчанка падкрэсліў, што Брэсцкая Біблія з'яўляецца першым поўным тэкстам Святога Пісання, надрукаваным у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе. Паводле ягоных слоў, гэты не пераўзыдзены дагэтуль шэдэўр беларускага кнігадрукавання, створаны ў эпоху Рэфармацыі ў традыцыях Рэнесансу, ацэньваецца коштам каля 250 тысяч долараў ЗША. Даследчык звярнуў увагу на тое, што ні адзін са старадрукаў не захаваўся ў такой колькасці, як Брэсцкая Біблія, а таксама на тое, што кніга была выдадзена ў гады найвышэйшага ўздзёту рэфармацыйнага руху на Беларусі.

Загадчык аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі Аляксандр Сцефановіч, загрыміраваны пад Мікалая Крыштофа Радзівіла Чорнага, унёс святочны торт у гонар юбіляра і ўручыў усім выступоўцам пасведчанні ганаровых наведвальнікаў бібліятэкі.

Госці свята прынялі ўдзел у кніжнай латарэі, арганізаванай супрацоўнікі бібліятэкі.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар **Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 1082

Падпісана да друку 06.09.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(**S**) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча